ПАМЯЦЬ

# Пражыць жыццё з геніем

*24 лютага народнаму паэту Рыгору Барадуліну споўнілася б 85 гадоў. Перачытваючы днямі яго першую пасмяротную кнігу «У неба пехатою», дбайна ўкладзеную Сяргеем Шапранам, я зачапіўся за верш з афарыстычным пачаткам: «Паэт будуе сам сябе, як храм, / Ці як пахіленую халабуду». І падумалася, што ўся барадулінская паэзія – як выбудаваны ў неба вечнасці Беларускі Храм. З усімі неабходнымі для святыні атрыбутамі. Ёсць там свой іканастас, свае спавядальні і свае званіцы. Храм – як антытэза той халабудзе, дзе збіраецца смецце нашага мітуслівага побыту. Нават па самым патрабавальным рахунку, які прынята называць гамбургскім, Барадуліна ўжо пры жыцці называлі геніем. І «чым болей сходзіць дзён-начэй», тым больш гэта робіцца відавочным. Задаўшыся пытаннем, ці лёгка пражыць жыццё з геніем, я наведаўся да жонкі паэта* ***Валянціны БАРАДУЛІНАЙ.***

**– Валянціна Міхайлаўна, ці памятаеце той момант, калі ўпершыню на Рыгора Іванавіча вока паклалі? Ці – ён на вас?**

– Відаць, усё ж ён на мяне – у 1957 годзе. Добра памятаю той дзень у інтэрнаце БДУ на вуліцы Бабруйскай. Рыгор вучыўся на трэцім курсе філфака, а я была першакурсніцай і грала на домры ва ўніверсітэцкім аркестры. У нас там быў старастам Мікалай Піпчанка, пазней доўгі час працаваў намеснікам дэкана на філфаку. Вось ён і прывёў Рыгора ў наш пакой – знаёміцца з дзяўчатамі. Прадставіў сябра як вядомага паэта – Рыгор ужо тады актыўна друкаваўся. Прызнацца, спачатку ён мне не спадабаўся – валасы на галаве дыбарам стаялі, нейкі насаты. А ён пачаў вакол мяне ўвівацца. І, трэба сказаць, умеў заляцацца – то слова ласкавае скажа, то паліто з вешалкі падасць. Доўга абходжваў, пазней сябрам расказваў: «Я гэту кабылку чатыры гады пасвіў». А я баялася выходзіць замуж, каб не закінуць вучобу. Супраціўлялася да 4-га курса, Рыгор ужо працаваў, калі мы пажаніліся.



Рыгор і Валянціна. 1963 год.

**– Дату вяселля памятаеце?**

– 23 лютага 1961 года. Застолле адбывалася на здымнай кватэры каля Опернага тэатра. Чамусьці запомнілася, як Грыша абшчыпваў для вясельнага стала курэй. А пілі кубінскі ром, якога ён купіў некалькі скрынак. Дыпломную я абараняла ўжо цяжарнаю, праўда, гэтага ніхто не заўважыў.

**– А як вас прыняла свякроў – Куліна Андрэееўна? У беларускім фальклоры адносіны свекрыві і нявесткі, як правіла, недружалюбныя.**

– І ў нас спачатку былі, скажам так, насцярожаныя. Свякроў пазней расказвала, як ушацкія бабы выпытвалі ў яе: ці не адпасажвае цябе нявестка ад печы? Гэта значыць – ці не ўзяла маладая гаспадыня кухню ў свае рукі. А я ж тую печ ва Ушачах упершыню ўбачыла! Пазней адносіны пацяплелі. Куліна Андрэееўна казала пры мне Рыгору: «Ты Вальку толькі не чапай, яна цябе век не зачэпіць». А яшчэ помню, як мы са свякроўю ў грамадскую лазню пайшлі. Мяне там жанчыны так бесцырымонна разглядалі-ацэньвалі, што я тазікам прыкрывалася. А Куліна Андрэеўна параіла мне задам павярнуцца і не звяртаць увагі. Не, яна дужа добра да мяне ставілася. Калі памірала, ляжала ў ложку апошнія тыдні, я сядзела пры ёй і праслязілася – шкада ж было… А яна яшчэ паспела сказаць Рыгору: «Відаць, Валька мяне любіць, бо, глянь ты, заплакала».

**– Куліна Андрэеўна ведала безліч народных песень, сын цэлы зборнік ад яе запісаў – «Песні матчыны з Ушаччыны». А вас спяваць навучыла?**

– Я і да прыезду ва Ушачы шмат беларускіх песень ведала – з рэпертуару хору Рыгора Шырмы, дзе спявала мая мама. А пасля стала і ўшацкія песні спяваць, пачутыя ад свекрыві. І сёння многія памятаю. *«У нядзелю піў-піў, / ў панядзелак піў-піў, / а ў аўторак снапоў сорак / цэпам змалаціў. / Пшанічаньку жну-жну, / долю не кляну, / ў сераду сушыла, / ў чацвер малаціла, / у пятніцу веяла, / а ў суботу сеяла, / а ў нядзелю прадала / і з хлопцамі прапіла. / Слава табе, Госпадзе, / што да дзела давяла!»*

**– Дык у вас сямейнае жыццё з песнямі ішло? Дуэтам спявалі?**

Не, Рыгор больш слухаць любіў. А ў мяне ж музычная адукацыя, і на скрыпцы, і на домры грала.

**– Вы пражылі з Рыгорам Іванавічам 53 гады. Раскажыце, якім ён быў мужам. Кветкі часта дарыў?**

– Толькі на 8 Сакавіка. Ну і калі недзе выступаў і яму там букет дарылі, дык ён мне перадорваў.

**– А па хатняй гаспадарцы дапамагаў?**

– Дзе там! Грыша пыласмок браў у рукі толькі двойчы. Калі куплялі, дык ён выпрабоўваў. А потым – ні разу. Праўда, бульбу абіраў і посуд мыў. Па-мойму, яму гэтыя заняткі падабаліся.

**– А цвік у сцяну мог забіць?**

– Не, суседзі дапамагалі (*смяецца*). У нас доўгі час жыў паэт Іван Бурсаў (потым ён у Маскву з'ехаў), вось ён да любой работы быў здатны. Ён нават уставаў, калі малая Ілонка заплача, хадзіў з ёю, калыхаў, у паліклініку вазіў. Мне здавалася, Грыша баяўся дачку на рукі браць – каб часам не ўпусціць. Патрымае пару хвілін – дык на ім ажно кашуля ўзмакрэе. Казаў – вось падрасце, буду яе за ручку вадзіць. Потым калі і вадзіў, то хіба на Камароўку, дзе прадавалася малдаўскае віно ў бочках... Але потым дачку любіў проста бязмежна. Яна хацела ў Тэатральна-мастацкі інстытут паступаць, мастаком марыла стаць, а мы абодва здуру вырашылі, што яна там у багемным асяроддзі распусціцца.



З дачкой Ілонай і унучкай Дамінікай.

Угаварылі пайсці на філфак – гэта было не для яе. Гады тры правучылася і кінула.

**– А калі нарадзілася ўнучка, дзед ужо не баяўся яе на рукі браць?**

– Пасмялеў ужо. Дамініку ён дужа любіў. Мне здаецца, нават больш, чым Ілону. Унукаў нярэдка больш любяць, чым дзяцей, гэта амаль як закон. У сталых людзей іншае разуменне жыцця, пачуцці больш натуральна праяўляюцца.

**– А мог Рыгор Іванавіч з ганарараў купіць жонцы футру ці залатыя завушніцы?**

– Ён купляў. Але я да шыкоўных футраў і дарагіх упрыгожанняў ставілася даволі абыякава. Я да іх не прывыкла з дзяцінства. Мы жылі вельмі сціпла, у мамы нічога такога не было.

**– Рыгор Іванавіч шмат дзе пабываў. А вы з ім чаму не падарожнічалі?**

– Чаму ж, мы разам на Каўказ ездзілі, у Крым, у Піцунду, дзе былі дамы творчасці пісьменнікаў. На моры Грыша ніколі не загараў – паплавае і вяртаецца да стала ці ў горы ідзе. Плаваць ён вельмі любіў, а мяне так і не навучыў. Часта ездзіць я не магла – працавала, спачатку ў беларускім аддзеле Ленінскай бібліятэкі, а потым у выдавецтве «Беларуская савецкая энцыклапедыя». Я ўвогуле больш дамасед.

**– У адной з кніг Барадуліна змешчана фота, дзе ён захоплена танцуе з нейкай азіяткай. А ўвогуле муж часта даваў вам падставы для рэўнасці?**

– Канешне. На тым фота ён, калі не памыляюся, са старшынёй Вярхоўнага Савета Тувінскай АССР. Я разумела, што паэту трэба кімсьці натхняцца. Не жонкай жа, якую штодня бачыш у халаце...



Р. Барадулін і У. Караткевіч жанчын насілі на руках.

**– А ён раўнівы быў?**

– Вельмі! Аднойчы прыехаў да мяне з Гродна хлопец, маё першае каханне, школьнае яшчэ. У нас, канешне, нічога сур'ёзнага з ім не было, тады норавы былі больш строгія. І вось мы ідзём з хлопцам каля Паштамта, а насустрач – Рыгор. Ён нас, канешне ж, убачыў, але і вухам не павёў, зрабіў выгляд, быццам мы незнаёмыя. А дома як накінуўся на мяне!

**– Накінуўся сварыцца?**

– Любіцца! Я тады адразу падумала, што трэба часцей яго правакаваць...

**– А як вы ставіліся да мужавых фрывольных экспромтаў? Іх жа ўсе ведалі. Напрыклад: «Як убачу Валянціну – сэрца б'ецца аб штаніну!».**

– Такія экспромты Грыша часта прыдумваў у рэстаранах, запісваў на сурвэтках. Я да іх не адразу прывыкла. З маладосці любіла Бальмонта, Надсана, Севяраніна, розных «томных» паэтаў, а тут такія вольнасці! Гэта Грыша пад уплывам ушацкага фальклору пісаў. Там чаго толькі няма! Ён усе тыя прыпеўкі сабраў і выдаў кнігу «Здубавецця». Чыталі?

**– Амаль усю на памяць ведаю! А па рэстаранах часта хадзілі?**

– Не вельмі часта, але хадзілі. Цэлымі кампаніямі. Адзін раз у рэстаране «Папараць-кветка» бойка ўсчалася. Сядзела наша кампанія, а непадалёк – другая. Грыша ішоў міма і нешта крыўднае сказаў – гэта ён мог... Ну і ўсхапіліся біцца, вядома ж, усе нападпітку. За Грышу тады заступіўся паэт Раман Тармола, яму найбольш і дасталося. Перапала і Грышу, ён біцца не ўмеў. Хіба толькі падушкамі – са мной. Мы абое трохі эгаістамі былі, бо ён адзін у мамы, і я адна, характары паказвалі.

**– А з кім Рыгор Іванавіч сябраваў? Ён увогуле быў кампанейскім чалавекам?**

– Залішне кампанейскім. Калі Грыша яшчэ выпіваў, то ў нашай кватэры бясконцыя гулянкі адбываліся. Прыходзілі сябры – пісьменнікі, музыканты, акцёры. Валодзя Караткевіч, Міша Стральцоў, спявакі Тамара Ніжнікава, Віктар Чарнабаеў, Міхаіл Пушкароў… Неяк прыходжу з працы, а ў кватэры чалавек сем спяць як пшаніцу прадаўшы. Рыгор – на тахце, бо ён першым хмялеў і займаў найлепшае месца, астатнія храпуць хто на раскладанцы, хто на цюфяку, а хто проста на падлозе. Рыгоравай кампаніі я ні разу за дзверы не выставіла. А, відаць, трэба было, гэта я пасля зразумела.

**– У сваіх успамінах пра сяброў з найбольшай любоўю Рыгор Іванавіч напісаў, як мне падаецца, пра двух – Стральцова і Караткевіча.**

– Стральцова Грыша вельмі любіў. Відаць, за мяккую, далікатную душу. І Караткевіча таксама любіў. Хоць над Валодзем мы ўсе трошкі падсмейваліся. Ён быў дужа добры чалавек, таленавіты бязмерна, але сам сябе, як вам сказаць, трошкі ўзвялічваў. Яго жонка Валянціна была надзвычай разумнай жанчынай, і яна яго таксама ўвесь час падхвальвала як мужчыну. То мы на гэты конт заўсёды жартавалі паміж сабой... Пазней Грыша блізка пасябраваў з Васілём Быкавым. Ён яго проста абагаўляў! Васіль Уладзіміравіч і мяне любіў, і я ўсё думала – за што? Відаць, за імя, бо ў яго была любімая сястра Валя. Быкаў першым і ў раддом прыйшоў, паколькі я ў Гродна нараджаць паехала, да мамы. А Рыгор толькі на трэці ці чацвёрты дзень з'явіўся, усё ў Мінску адзначаў нараджэнне дачкі. Хоць вельмі хацеў сына, нават з імем ужо вызначыўся – Яраслаў. Потым я шкадавала, што не адважылася мець яшчэ дзяцей. Асабліва перажывала, калі Ілоны не стала. Адна дачка, адна ўнучка…

**– Дык а чаму не адважыліся?**

– Грыша кінуў піць, калі Ілоне было ўжо 12 гадоў. Прызнацца, я проста не ведала, як буду жыць з выпівохам, бо ён здорава да чаркі прыкладаўся. І я асцярожнічала, думала, не дай Бог застануся адна, што тады… Так і не нарадзіла больш. Сама ўсё вырашыла. Ведаеце, у сям'і заўсёды кіруе жанчына. Мужчына – галава, а жанчына – шыя: як захоча, так і паверне.

**– Адкрыйце сакрэт, як вы адвадзілі Рыгора Іванавіча ад чаркі? Ён жа гадоў сорак і ў рот не браў. Пытаюся, бо на гэты конт існуе некалькі версій.**

– Адкрываю сакрэт. Адвадзіла практычна праз падман. Рыгору трэба было ўжываць лекі – доктар прапісаў. А я ведала, што тыя лекі і гарэлка – несумяшчальныя для жыцця. І калі ён сарвецца, то загіне. І я давала яму звычайны пертусін – пад выглядам антыалкагольных лекаў! Даволі працяглы час. Рыгор вельмі хацеў жыць і – стаў цвярэзнікам. Ніколі я яму пра свой падман не расказвала. Так і памёр, не даведаўшыся.

**– А мне ён зусім другую гісторыю расказваў. Нібыта Ларыса Геніюш, якая, дарэчы, называла гарэлку нацыянальнай хваробай беларусаў, вылечыла яго… вершам-замовай. І верш цытаваў:**

***Праз час, прастор крычу здалёк:***
***Не пі, Рыгор, не пі, сынок!***
***Не п'юць жа людзі ля стырна,***
***І ксёндз не п'е ля алтара,***
***І той не п'е, хто ў бой ідзе,***
***І той не п'е, хто ў бой вядзе!***
***Хто піў – той без пары***
***замоўк…***
***Не пі, Рыгор, не пі, сынок.***
***Радзіма – карабель, наш твар,***
***І бою пляц, і наш алтар.***
***А ты – і стырнік, і баец,***
***святар ад кніг і свой хлапец…***
***Не пі!***

**Пагадзіцеся – сапраўды гучыць як замова.**

– То, відаць, і верш дапамог, атрымалася комплекснае лячэнне (*смяецца*). І недзе з 1975 года Грыша ў любым застоллі піў толькі мінералку.

**– Ужо амаль шэсць гадоў прайшло, як Рыгор Іванавіч паехаў у сваё апошняе падарожжа на Ушаччыну. Была ж магчымасць пахаваць яго на мінскіх Кальварыйскіх могілках. Чаму вы не дазволілі?**

– Бо гэта было Грышава жаданне – ляжаць толькі ва Ушачах, каля мамы, пад ушацкім небам. Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк мяне доўга ўгаворваў, маўляў, на Кальварыі Барадуліна шмат хто зможа адведаць. Але як я магла не выканаць апошнюю Грышаву волю? Упёрлася рогам і цяпер вельмі задаволеная, што настояла на сваім.

**– Ва Ушачах застаўся дом Барадуліна, з падворка якога паэта і адвезлі на старыя могілкі. Вы ў доме тым цяпер бываеце?**

– Пасля Грышавай смерці толькі некалькі разоў была. Гэта ж не бацькоўская хата, цагляны навабуд, прычым узведзены абы як. У тым доме жыць немагчыма – холадна. Печы няма, толькі камін, а ім жа хату не нагрэеш. Мы з Рыгорам там бывалі толькі ўлетку, як на лецішчы. За зіму хата так прамярзала, што за лета не адаграваліся.

**– Пражыўшы з Рыгорам Іванавічам больш за паўвека і правёўшы яго ў апошні шлях, аб чым вы шкадуеце?**

– Шкадую, што часам была ў адносінах з паэтам, якога лічу геніяльным, халаднаватай, мала яго хваліла, мала цяпла яму давала. А з Грышы тэмперамент проста фантанам біў! І маё маўчанне нярэдка яго раздражняла. З другога боку, у сямейных адносінах трэба, каб была нейкая пярчынка, іначай жыццё зробіцца прэсным і нецікавым.

**Міхась СКОБЛА.**

РАСКОЛ

# Поўны правал маскоўскай царкоўнай дыпламатыі

Пытаннечка: і навошта яму прэмію давалі? Маю на ўвазе Патрыярха Іерусалімскага Феафіла III.

Прыехаўшы ў лістападзе мінулага года ў Маскву, прадстаяцель Іерусалімскай праваслаўнай царквы атрымаў прэмію Фонду еднасці праваслаўных народаў, быў прыняты Пуціным і нібыта ад свайго імя агучыў ідэю: сабраць у Амане (Іарданія) Сінаксіс (сход) кіраўнікоў праваслаўных цэркваў.

У Маскоўскім патрыярхаце выказалі надзею, што Феафіл стане гарантам адзінства праваслаўя, а потым ляпнулі такое: Феафіл, маўляў, «сумее пераадолець наступствы беззаконных дзеянняў» ачольнікаў тых цэркваў, якія прызналі аўтакефалію Праваслаўнай царквы Украіны.

Масква, такім чынам, спадзявалася «паставіць на месца» канстанцінопальскага Патрыярха Варфаламея, александрыйскага Папу і Патрыярха Феадора ды архіепіскапа Афінскага і ўсяе Элады Іераніма і ўбіць клін паміж імі і астатнімі праваслаўнымі цэрквамі.

Была ў Масквы і іншая мэта – стварыўшы антыканстанцінопальскую кааліцыю, перанесці, калі ўдасца, цэнтр праваслаўя ў Маскву (даўняя, яшчэ з царскага часу, мара).

У тых, хто ведае каноны, адразу нарадзілася пытанне: а хто ўпаўнаважыў Феафіла склікаць сінаксісы прадстаяцеляў? Гэта, як вядома, прэрагатыва Усяленскага Патрыярха. Натуральна, што Патрыярх Варфаламей нагадаў гэта Феафілу ў асабістым лісце. Паказаў Феафілу ягонае месца і ачольнік Албанскай царквы Анастасій.

Бадай, самае цікавае прагучала з вуснаў кіпрскага прадстаяцеля Хрызастома. Маючы на ўвазе Кірыла Маскоўскага, Хрызастом заявіў: «Ён хоча быць першым. Я сказаў яму: ты ніколі не будзеш першым. За апошнія 17 стагоддзяў канстанцінопальскі Патрыярх быў прызнаны першым сярод усіх праваслаўных прадстаяцеляў. Вы павінны гэта зразумець. Але эгаізм не дае яму ясна бачыць».

Масква не ўлічыла аднаго: калі РПЦ у 1948-м, пры жывым Сталіне, не ўдалося стаць першай сярод праваслаўных цэркваў, то цяпер, калі няма СССР і распаўся камуністычны блок, не ўдасца пагатоў.

Да таго ж праваслаўны свет памятае, што ў 2016 годзе Масква паказала кукіш Канстанцінопалю і дзевяці іншым цэрквам ды праігнаравала Святы і Вялікі Сабор Праваслаўнай царквы на Крыце. Тады ў яе была магчымасць абмеркаваць шмат якія пытанні, у тым ліку каноны, датычныя надання аўтакефаліі.

Першапачаткова Сінаксіс у Амане быў прызначаны на 20 лютага. Потым яго пачатак ссунулі на 26-е. А ўжо 19 лютага з Іерусаліма прыйшла навіна, што Сінаксісу не будзе, а будзе «брацкая сустрэча», мэта якой – «рагледзець метадалогію, якая будзе выкарыстоўвацца для дасягнення агульнай мэты дыялогу і прымірэння, каб захаваць еднасць у праваслаўнай супольнасці». Нават супольнай літургіі не будзе, бо як яе служыць, калі Кірыл Маскоўскі не хоча памінаць ні Варфаламея, ні Феадора, ні Іераніма, а астатнія прадстаяцелі памінаюць.

Цяпер ужо і Масква настроена не так рашуча, як раней. Там ужо кажуць, што, магчыма, спатрэбіцца не адна сустрэча, бо выяўляецца, што з усіх стараннеяў маскоўскіх эмісараў, з усіх выдаткаў атрымаўся вялікі пшык. У Аман не паедуць прадстаяцелі Канстанцінопальскай, Александрыйскай, Антыяхійскай, Кіпрскай, Балгарскай, Грузінскай, Эладскай і Албанскай цэркваў, а Румынская і Польская цэрквы адпраўляюць у Аман епархіяльных архірэяў (пэўна, у якасці назіральнікаў). Само сабой, не будзе ў Амане і прадстаўніка Праваслаўнай царквы Украіны.

Для параўнання: у 2016 годзе Маскве ўдалося перацягнуць на свой бок Антыяхійскую, Балгарскую і Грузінскую цэрквы. З 14 аўтакефальных цэркваў удзел у Святым і Вялікім Саборы ўзялі прадстаяцелі дзесяці. У Амане ж будзе амаль наадварот – з 15 прадстаяцеляў аўтакефальных цэркваў у сталіцу Іарданіі прыедуць толькі чатыры: Феафіл Іерусалімскі, Патрыярх Маскоўскі Кірыл, Патрыярх Сербскі Ірыней і мітрапаліт Чэшскіх земляў і Славакіі Расціслаў. І наўрад ці гэтыя чацвёра прымуць нейкі дакумент з асуджэннем Усяленскага Патрыярхату і ўкраінскіх «раскольнікаў» з ПЦУ. Сербскай Царкве гэта нявыгадна, бо Канстанцінопаль можа прызнаць аўтакефалію Праваслаўнай царквы Македоніі (старажытнай Охрыдскай архіепіскапіі). Апроч таго, некаторыя лічаць, што гаспадар сустрэчы Феафіл Іерусалімскі як чацвёрты (пасля Усяленскага, Александрыйскага і Антыяхійскага патрыярхаў) сярод кіраўнікоў праваслаўных цэркваў не дапусціць прыняцця такога дакумента.

Маскоўская Царква марыла ўзначаліць праваслаўе. Цяпер, як відаць, яна ступіла на шлях расколу праваслаўнага свету і стала пасмешышчам хрысціянскага свету.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Хоць нямашака кароў, ды «надоі» будзь здароў!

У адной з гаспадарак Слонімскага раёна дапусцілі масавую здыхату жывёлы. Каб утаіць гэта, кіраўнікі паказвалі ў справаздачах, што 160 кароў быццам бы прададзены мясцовым жыхарам. Адна з даярак, напрыклад, «купіла» 14 кароў. З яе заробку (300 рублёў) трэць грошай штомесяц вылічвалася на пакрыццё «доўгу». І даярка, і іншыя «пакупнікі» маўчалі, бо баяліся страціць працу.

Карэспандэнту даў загад
Рэдактар абласной газеты:
– Ты пра злачынствы пішаш шмат,
Твае героі – прайдзісветы,
Забойцы і гвалтаўнікі,
Твой жанр любімы – фельетоны.
А людзям трэба ў час такі
Знаць пра працэнты, літры, тоны,
І пра руплівай працы плён,
Пра поспехі, якіх нямала.
Дык трэба, каб не фельетон
Газета заўтра атрымала,
А адмысловы рэпартаж
З адной узорнай гаспадаркі.
У вёсках там бабулі аж
На старасці пайшлі ў даяркі.
Як тыя фермеры, кароў
Яны купляюць у калгасе,
І ў іх надоі будзь здароў –
Паб'юць рэкорды ў хуткім часе!
– Адкуль вядома ўсё? Калі
Напраўду так, дык дзіўна ўсё-ткі…
– Падказку «зверху» мне далі,
«Вярхам» жа падказалі зводкі.
Нам вопыт той перадавы,
Як кажуць, трэба несці ў масы.
Хай у прыватныя хлявы
Кароў перадаюць калгасы.
Часова амплуа змяні
І напішы амаль што оду.
Газета будзе на кані
І прынясе карысць народу.
Карэспандэнт у той жа дзень
(Загад рэдактара газеты!)
Паехаць змусіўся ў глухмень,
Каб напісаць пра вопыт гэты.
Спачатку ён да старшыні
Падаўся на перагаворы.
– Ды што вы – божа барані! –
Усклікнуў той і збег з канторы.
І заатэхнік тварам скіс,
Настрой чамусьці невясёлы.
Але падаў усё-ткі спіс
Тых, хто купіў найбольш жывёлы.
Карэспандэнт рашыў: «Пайду
І адшукаю прыклад яркі:
Да тых, хто ледзь не чараду
Купіў для ўласнай гаспадаркі».
Перадавых гаспадароў
Рашыў наведаць для пачатку.
Спытаў:
– А колькі ўсё ж кароў
Ва ўласным вашым дойным статку?
Здзівіліся гаспадары:
Пра што ім пляцкае «пісака»?
– У нас, – сказалі, – у двары
З жывёлы кошка ды сабака.
Карову мелі мы раней,
Была смятана з «хатняй фермы».
Ды толькі нават і свіней
Трымаць не здолелі б цяпер мы –
Няма за што купляць кармы,
Зусім нягеглыя зарплаты.
Яшчэ й калгасу плацім мы,
Бо ён нясе на ферме страты –
Жывёлы беднае падзеж,
Як тыя мухі, мруць каровы,
Бо кепска кормяць іх, але ж
У нас, сялян, баляць галовы.
Даўгі павесілі на нас,
І не знайсці на злыдняў зладу.
У зводках пішуць, што калгас
Прадаў нам здохлую гавяду.
Ды толькі гэта ўсё хлусня, –
Яны даводзілі «пісаку». –
Імкнецца гэтак старшыня
Прыкрыць сваю, прабачце, ср…ку.
– Чаму не скардзіцеся вы
На самаўпраўства тое?
– Што ты!
Калі пачнеш качаць правы,
Дык застанешся без работы.
Сяляне ўсе збяднелі ўшчэнт.
А каб ён спрах, калгас пракляты!
Не дзіва, што карэспандэнт
Расчараваным выйшаў з хаты.
«Няўжо такое быць магло?» –
Не мог паверыць клёк ягоны.
Ён абышоў усё сяло –
Пацвердзіў тое «люд прыгонны».
Вяртаючыся, думаў ён,
Што застанецца той жа ніша,
Што зноў не оду – фельетон,
На жаль, увечары напіша…

* * *

Чаму мы ў «чорнай паласе»
І лёс народа гэткі цяжкі?
Бо мусім мы плаціць за ўсе
Улады прыкрыя прамашкі.

ДИСКУССИЯ

# Лишних знаний не бывает!

Только 20 процентов старшеклассников желают учиться, остальные – прямо-таки потомки приснопамятного Митрофанушки – учиться не хотят. А все потому, что в школьных учебниках много скучных текстов и мало интересных картинок. И вообще, зачем будущему трактористу знать математику, инженеру – биологию, а экономисту – физику? Хватит им только общих представлений по этим, ненужным, предметам.




На такие размышления навело нынешнее состояние нашей школы отличника образования Республики Беларусь Станислава Холева («Народная Воля» №9 от 31 января 2020 г.). Мне, всего лишь скромному выпускнику советской школы, логика автора показалась странной.

Митрофанушку я помянул неслучайно. В те времена источником знаний были рассказы учителей. Практически не было литературы, не говоря уже об учебных пособиях. Ученики вынуждены были запоминать огромное количество различной информации. Со временем появились справочники, развилось библиотечное дело, и объем запоминаемой информации можно было сократить. А нынче под рукой бездонный кладезь интернета, только умей им пользоваться, и не нужно голову забивать легкодоступными сведениями. Новые возможности, предоставляемые информационными технологиями, существенно дополняют учебный процесс, позволяют ученикам успешно овладевать знаниями.

Как ни странно, в этих условиях некоторые энтузиасты ставят вопрос о «лишних» знаниях. Вот и Станислав Холев уверенно заявляет, каким специалистам не нужны те или иные знания. Правда, почему-то он забыл сказать, какие знания не нужны будущим бомжам. Ведь в школе учатся дети, и им еще только предстоит войти в самостоятельную жизнь.

Самородков, которые с пеленок знают, кем быть, в реальной жизни не так уж и много. Абсолютное большинство людей проходят непростой путь в поисках себя и своего места в обществе, и не всегда их поиски успешны. Того, кто возьмет на себя миссию определять среди учеников, «кому бесславье, а кому бессмертие», справедливо назовут фашистом. Сегодня общество прилагает много усилий, чтобы помочь найти себя даже людям с ограниченными возможностями.

Я совсем не против новаций в любых сферах нашей жизни. Беспокоит склонность энтузиастов к крутым поворотам новизны. Станислав Холев уверен: углубленные знания стоит добывать лишь по мере необходимости. А «чтобы стать образованным человеком, способным разобраться в многочисленных проблемах жизни, достаточно хорошо усвоить общие представления, положения и законы, научиться делать выводы, строить логические умозаключения, уметь анализировать или овладеть системой поиска нужного материала». И тогда учеба в школе «пойдет в радость». Тем более, если «в школьных учебниках… в полтора-два раза уменьшить количество текста и в три раза увеличить количество иллюстраций».

Вспоминать нынче завет яростно проклинаемого дедушки Ленина – «Учиться, учиться и еще раз учиться», чтобы обогатить «свою память знанием всех тех богатств, которые выработало человечество», – очень рискованно: многие меня не только не поймут, но даже и не услышат. Попытаюсь рассудить по-своему. Давно известно, что в общей массе преуспевающих в жизни людей преобладают «троечники», которые «учились чему-нибудь и как-нибудь», но умеют при необходимости «коснуться до всего слегка с ученым видом знатока». Уже нет числа не людям образованным, не опытным специалистам, а наглым и самоуверенным «образованцам», готовым ради своих шкурных интересов заниматься чем бы то ни было, даже если это «что бы то ни было» им даже и не снилось.

Неправда, что есть лишние знания. Зачастую решения многих практических проблем находятся на стыке различных областей знаний, и никто не возьмется определить глубину обобщенных сведений, достаточную для логических умозаключений. Благодаря новым технологиям, все чаще «умирают» привычные профессии, а для уверенного овладения другими общих знаний и представлений недостаточно. Вместе с тем именно ум подрастающего человека наиболее способен к восприятию новой информации, и надеяться, что можно углубить знания по мере необходимости в любом возрасте, не приходится. Учеба – не цирковая клоунада, это тяжелый труд. Многие мои ровесники считают, что в их жизни самой тяжелой работой была именно учеба в школе. Школьная закалка помогла и мне шесть лет совмещать работу с учебой на вечернем отделении физфака БГУ.

Сегодня лишь как пикантную подробность вспоминают тот факт, что великий Пушкин «университетов не кончал» – гениальному поэту вполне хватило лицея. Нынче никто не знает, насколько глубокими были знания русских гимназистов. В те времена молодые люди искали в школе не смысл изучения отдельных предметов, а смысл жизни. И никто их за нелегкий труд не жалел – школярство было жизненно необходимым занятием.

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ,**
**инженер.**

З ПІСЬМА...

## А дзе ж пазіцыя дзяржавы?

Як неабыякавы грамадзянін, я звярнуўся да міністра адукацыі Ігара Васільевіча Карпенкі з прапановай увесці ва ўсіх дзіцячых садках абавязковае навучанне на беларускай мове. Атрымаў адмоўны адказ: маўляў, «мова навучання і выхавання вызначаецца заснавальнікам установы адукацыі з улікам пажаданняў навучэнцаў і іх бацькоў (законных прадстаўнікоў непаўналетніх)».

А дзе ж пазіцыя дзяржавы?

Калі бацькі бачаць, што ўлады зацікаўлены больш у русіфікацыі народа, чым у беларусізацыі, то, вядома ж, якое ў іх будзе «пажаданне». Не, такі падыход антынацыянальны, ганебны! Хочацца спадзявацца, што ў рэшце рэшт сітуацыя зменіцца ў лепшы бок.

**Уладзімір ЕЎШАЛЬ.**

*Брэст.*

ПРАПАНОВА!

## Я – за рэфармаванне Цэнтрвыбаркама!

Каб змяніць сітуацыю ў краіне, трэба ў першую чаргу рэфармаваць Цэнтральную выбарчую камісію. Трэба, каб яна была незалежнай ад прэзідэнта. А.Лукашэнка не павінен прызначаць старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі і яе членаў.

Пры Цэнтрвыбаркаме неабходна стварыць савет старэйшын з акадэмікаў, дактароў навук, іншых аўтарытэтных людей Рэспублікі Беларусь, якія будуць кантраляваць ход выбарчых кампаній на ўсіх этапах.

**Алесь ЗАРАНОК.**

*г.Калінкавічы.*

ГЛАС НАРОДА

## …А следственные и прокурорские органы как будто ничего не заметили

В последние годы было заведено немало громких уголовных дел – и по врачам, и по независимым профсоюзам, и по железнодорожникам, и вот по так называемым сахарникам. Но я обращаюсь к следователям и прокурорам: когда будут возбуждены уголовные дела по фактам фальсификации результатов выборов? В прошлом году проводилась кампания по избранию депутатов в новый состав Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь. Было задокументировано множество нарушений законодательства со стороны тех, кто по своим обязанностям не имел права ни на йоту отступить от положений Избирательного кодекса!

И что? Независимые средства массовой информации обнародовали вопиющие факты нарушений законодательства, а следственные и прокурорские органы как будто их не заметили. На заявления партийных активистов и правозащитников ответили отписками. А ведь речь идет об очень опасных преступлениях – о покушении на основы Конституции!

Если Фемида и дальше будет закрывать глаза на манипуляции во время избирательных кампаний, то в нашей стране никогда не наступит реальная демократия. А без этого нельзя и мечтать о хорошей жизни.

**Геннадий ЗИНОВЧИК,**
**избиратель с 63-летним стажем.**
*Минский район.*

З УЛАСНАГА ВОПЫТУ

# …Нам застаецца толькі чырванець

Больш за дзесяць гадоў я працаваў участковым інспектарам міліцыі ў Гродзенскім раёне. Па асноўным паказчыку – колькасці складзеных пратаколаў – быў першым кандыдатам у аддзеле на звальненне з пасады.

Чаму не вымелі паганай мятлой з нашых слаўных органаў? Хутчэй за ўсё, таму, што я быў патрэбны роднаму райаддзелу ў якасці адмоўнага прыкладу (як не трэба працаваць) на ўсякага кшталту сходах, нарадах, квартальных і іншых справаздачах. Мяне выклікалі на трыбуну і перавыхоўвалі. Я ж выпраўляцца адмаўляўся і ўпарта гнуў сваё. Мае тлумачэнні станавіліся выкрывальнымі прамовамі супраць «палачна-птушкавай» сістэмы, выклікалі дыскусіі. Ацэньваць работу супрацоўніка міліцыі па колькасці складзеных пратаколаў – гэта тое ж самае, што ацэньваць працу дрывасека па колькасці атрыманых трэсак ці поспех доктара па колькасці скормленых пацыенту таблетак. Пратакол не можа быць мэтай, ён толькі сродак у прафілактычнай дзейнасці, элемент у стрэсавым уздзеянні на правапарушальніка, сцвярджаў я.

Згодна з палажэннем, на адміністрацыйным участку павінна пражываць каля трох тысяч чалавек. Калі складаць толькі адзін пратакол у дзень, менш як за дзесяць гадоў на ўчастку не застанецца ніводнага непакаранага чалавека. А «перадавікі вытворчасці» складаюць да трох соцень пратаколаў у месяц. Гэта робіць адміністрацыйнае пакаранне звыклай з'явай, псіхалагічна зводзіць яго да ўзроўню прыкрай недарэчнасці, чым знішчае яго прафілактычны эфект.

На падставе ўласнай практыкі сцвярджаю: каб навесці парадак на адміністрацыйным участку, зусім не абавязкова весці прафілактыку шырокім фронтам. Пераважная большасць грамадзян паважаюць закон і вядуць прыстойны лад жыцця. Дастаткова трымаць пад кантролем паводзіны сарака-пяцідзесяці крымінальна небяспечных асоб. Але вось тут і тоіцца галоўны парадокс існуючай сістэмы прафілактыкі. Чым больш на вуліцах п'яных грамадзян, чым больш скандалістаў, тым лягчэй адказнаму за ўчастак супрацоўніку забяспечыць вал пратаколаў і апынуцца ў перадавіках.

І яшчэ – вялікая колькасць пратаколаў забяспечвае занятасцю іншыя інстанцыі сістэмы: суды, пракуратуру, ІЧУ, ЛПП. Што адбудзецца, калі колькасць правапарушальнікаў у грамадстве раптам знізіцца ў два, тры разы? Гэта ж колькі чалавек застануцца раптам без працы! Пад пагрозай апынецца, бадай, галоўная структура дзяржавы ды і сама дзяржава! «Не! Не дамо!» – казалі мне. «Жыццё прымусіць!» – адказваў я і прыводзіў новыя і новыя аргументы не на карысць «палачна-птушкавай» сістэмы.

Мой сусед, ціхі, спагадлівы, добразычлівы чалавек, паміраў. Пухліна ў горле павольна, але ўпарта дадушвала яго. Бракавала паветра. Каб хоць неяк аблегчыць пакуты, ён выходзіў сярод ночы на вуліцу і таптаўся на тратуары ля дома. Тут і заўважыў яго аднойчы экіпаж ДАІ, вяртаючыся пасля няўдалага «палявання». Ноччу на вуліцы і без флікера – жывы пратакол! Пакуль круцілася канцылярская машына, чалавек памёр. Прызначаны штраф прыйшоў на адрас пасля яго смерці. Разлічвалася з дзяржавай дачка нябожчыка. Бо не павінна ж душа памерлага пакінуць даўгі на гэтым свеце!

Скажыце, што павінен падумаць пра дзяржаву нармальны чалавек, пачуўшы гэтую гісторыю? Пра які давер, пра які аўтарытэт можа быць гаворка?

Службовая дзейнасць кожнага чыноўніка рэгламентуецца законамі, пастановамі, загадамі, інструкцыямі. У свой час і мне давялося вывучаць, канспектаваць іх. Пры генсеках, пры старшынях, пры прэзідэнце літара закона крыху карэкціравалася адпаведна часу, а вось дух – цяжкі дух класавага супрацьстаяння і грамадзянскай вайны – заставаўся нязменным. Змаганне супраць чалавека, а не супраць з'явы. Усё гэта спараджае «палачна-птушкавую» сістэму. Выйсце адно – змяніць закон. Не класавая барацьба, а гуманізм павінен быць падмуркам яго.

– Калі я бачу нямецкага паліцэйскага, я бачу свайго абаронцу, дарадчыка, памочніка, – казаў мне ў размове грамадзянін Германіі, які знаходзіўся ў Беларусі ў працяглай камандзіроўцы. – Калі ж я сустракаю беларускага міліцыянера, адчуваю дыскамфорт, чакаю ад яго прэтэнзій, заўваг.

І гэта іх і наша рэчаіснасць. Яны, заходнія еўрапейцы, могуць хваліцца, а нам застаецца толькі чырванець.

**Мікалай НЕЎГЕНЬ,**
**жыхар вёскі Гожа**
**Гродзенскага раёна.**

SOS!

## Прошу помощи!

Здравствуйте, уважаемая редакция!

Ваша газета действительно заслуживает большого уважения, ее читаешь с удовольствием, в ней нет вранья.

Я пишу вам вот по какой причине. Прошла информация, что Беларусь оказала гуманитарную помощь Китаю в связи с коронавирусом. Это, конечно, хорошо, но нашим властям надо и о своих людях беспокоиться.

Вот у меня катаракта, я скоро совсем ослепну. Нужно срочно делать операцию, она намечена на март месяц. Поскольку у нас в Петрикове их не выполняют, то придется ехать в Гомель. А мне под 80 лет, имею инвалидность, любые переезды связаны с трудностями.

Но проблема даже не в этом. У меня пенсия 340 рублей. Скажите, как мне собрать деньги на операцию? Сделать только на один глаз – 700 рублей, а на два – сумма вообще неподъемная. А ведь так не хочется совсем ослепнуть. Таких, как я, называют дети войны: отец погиб на фронте, фашисты сожгли мамину хату, и она родила меня в лесу в землянке. Тяжело было, но мы, слава Богу, выжили. Как бы мы были благодарны государству, если бы оно теперь обратило на нас внимание. Неужели я не заслужила того, чтобы операции мне сделали бесплатно?

Напечатайте мое письмо – а вдруг кто-нибудь из высокого руководства прочитает и поможет мне.

**Зинаида Антоновна ТАНЮШКИНА.**

*г.Петриков.*

ФОТАФАКТ



**Легкоатлетический старт «Забег настоящих мужчин» традиционно прошел в Минске 23 февраля. Участники пробежали по столичным улицам с оголенными торсами. Организатор мероприятия – Белорусская федерация легкой атлетики.**

РЭХА

## Панамарэнка – вораг беларушчыны

Дзякуй і нізкі паклон рэдакцыі за тое, што на старонках «Народнай Волі» з'явіліся мемуары С.С.Шушкевіча! Яго развагі базіруюцца на многіх дакументальных фактах. Я, напрыклад, чытаў пра гнюсныя паводзіны розных сталінскіх прыспешнікаў. Але пра крымінальныя злачынствы (па-іншаму іх нельга назваць) былога першага сакратара ЦК КПБ Панамарэнкі дазнаўся ад паважанага Станіслава Станіслававіча, які прывёў у сваёй кнізе «Маё жыццё» поўны тэкст ліста гэтага бальшавіцкага служкі І.Сталіну. Даўно пара кампетэнтным органам даць Панамарэнку адпаведную ацэнку. І ці ж не сорам, што да гэтага часу адна з вуліц у Мінску названа ў яго гонар?

**Леанід ТРАФІМЧЫК,**
**жыхар г.Іўе.**

У СОСЕДЕЙ

# Кто вгоняет Украину в состояние хаоса?

В начале минувшей недели обострением боевых действий на Донбассе был нанесен удар по миротворческой позиции Владимира Зеленского. Враг, оккупировавший часть Украины, четко дал понять, что мир может быть только на его условиях и интересы Украины в расчет браться не будут.

Но самым кризисным событием в феврале стала, я считаю, встреча страной своих граждан, эвакуированных из очага новой вирусной инфекции – китайского города Уханя. Эпопея с возвращением соотечественников длилась фактически более месяца. Складывалось впечатление, что правительство страны надеялось, что проблема рассосется сама собой. Но вот родственники заблокированных в Ухане украинских граждан начали бить в набат. Информация вышла на передовицы СМИ, и власть была вынуждена реагировать. Очень быстро стало понятно, что ни Кабинет министров, ни профильное министерство не в состоянии оперативно отработать элементарные стандартные мероприятия по эпидемиологическому протоколу. Организовать эвакуацию, места для карантина и создать соответствующую информационную программу, которая должна была разъяснить и успокоить население, чтобы снять нарастающее напряжение и возникшие панические настроения.

Начались протесты около медицинских учреждений, предположительно готовых принять граждан на карантин. Ситуация доходила до абсурда, когда даже украинские врачи сами блокировали подъездные пути. Местные политики, вгоняя в страх собственных граждан и подогревая протесты, делали заявления о том, что размещение эвакуированных – это *«геноцид украинского народа»*. И это все происходило в основном на Западе Украины, в своеобразном оплоте украинского патриотизма. Но, как оказалось, в реальности патриотизма нет, а есть пустые, ничем не подкрепленные слова и дремучая пещерная неграмотность.

20 февраля, день прилета эвакуационного самолета, останется в памяти надолго. На фоне истерик и протестов было официально объявлено, что эвакуированных разместят на карантин в Полтавской области в санатории в Новых Санжарах.

Еще шесть лет назад украинские граждане в патриотическом порыве шли под пули обезумевшего режима, штурмовали военкоматы и формировали добровольческие батальоны, чтобы встать на защиту Отечества от оккупантов.

Но современная действительность оказалась иной, какой-то сюрреалистической. Самолет с эвакуированными не может приземлиться и наматывает в воздухе более 30 кругов. На западе Украины читают молитвы благодарности, что эвакуированных украинских граждан везут не к ним, а медики от радости со слезами на глазах поют гимн страны!!! А в Новых Санжарах национальная гвардия с бронетехникой, усиленные наряды полиции, экзальтированная толпа, заблокированные автотранспортом дороги, метание камней в полицию, горящие шины, битье стекол в автобусах, угрозы сжечь санаторий вместе с эвакуированными…

Страх, паника, истерика не только у тех, кто на баррикадах, а и у тех, кого с таким трудом вывезли из Китая. Кадры «радушного приема» облетели весь мир, вызвав как минимум недоумение.

Есть две основные причины произошедшего. Безусловно, виноваты не простые граждане, хотя иногда надо критически оценивать ситуацию и руководствоваться не эмоциями, а разумом.

Первая причина: в большинстве последних политических кризисов, произошедших в Украине, виноваты прежде всего государственные топ-менеджеры страны. Оказалось, что они не способны решать без создания проблем самые элементарные задачи. Ни в организационном плане, ни в информационном. Нет системно мыслящих администраторов, способных брать ответственность на себя, нет аналитиков, нет антикризисных менеджеров, нет людей, способных генерировать внятные информационные месседжи... По сути, украинская власть сама, своими действиями постоянно провоцирует скандалы.

И вторая причина – наличие стороны, способной гипертрофировать любое неуклюжее действие государственных чиновников и раздуть его до критического состояния. Эта сторона работает исключительно на снос нынешней украинской власти. Это могут быть как внутренние политические группы (реваншисты разных мастей, радикалы, олигархические группы и коррупционеры, которых отодвинули от государственных ресурсов), так и внешние заинтересанты ввержения Украины в состояние хаоса.

События минувшей недели показали наличие еще одного существенного фактора, возможно, ключевого. Это как минимум саботаж спецслужб, которые вообще никаким образом не отреагировали на события, чтобы предотвратить события, дестабилизирующие страну, ни после, чтобы установить и наказать виновных. Следовательно, череда кризисов будет идти по нарастающей до определенного момента. Что это будет за момент и какие последствия наступят для Украины?..

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

ТАМ, В КИТАЕ

# Коронавирус сдается?




**По информации на вчерашний день в Китае от коронавируса умерли почти 2500 человек. Но похоже на то, что наметилось снижение уровня угрозы от этого заболевания.**

**Так, в провинции Юньнань и Гуйчжоу он упал с первого (наивысшего) уровня до третьего, в Гуаньдун и Шаньси – с первого до второго. Ранее о снижении уровня опасности сообщили медики провинций Ганьсу и Ляонинь.**

КАЛЕЙДОСКОП

## Жители Латвии платят самые высокие в ЕС налоги на экологию

Каждый десятый евро, который поступает в казну в виде налоговых сборов, так или иначе связан с экологической тематикой, говорится в новом исследовании Eurostat.

Хотя формально латвийское правительство еще только готовится приспособить свою налоговую политику под нужды борьбы с климатическими изменениями за счет повышения налогов на дизельные автомобили и на пользование природными ресурсами, официальная статистика Евросоюза показывает, что Латвия уже сейчас собирает больше всего налоговых сборов на различные экологические нужды.

По данным Eurostat, в 2018 году вклад экологических налогов в общие государственные доходы от налогов и социальных отчислений в Латвии составлял 10,9%, что является самым высоким показателем среди стран ЕС. На втором месте в рейтинге государств с самым «зеленым» налогообложением числится Болгария (9,8%), на третьем – Греция (9,5%). Далее идут Словения (9,4 %) и Хорватия (9,3%). Интересно, что западные страны с развитой экономикой располагаются на другом конце шкалы: наименьшие доли экологических налогов зафиксированы в Люксембурге (4,4%), Германии (4,5%) и Швеции (4,8%).

В целом в 2018 году общие поступления по экологическим налогам в Евросоюзе составили 324,6 млрд евро, что на 3% больше в номинальном выражении по сравнению с предыдущим годом и на 49% выше, чем в 2002-м. Из всех экологических налогов наибольший удельный вес (77,7%) приходится на налоги на энергию, затем следуют транспортные налоги (19,1%), а также налоги на загрязнение окружающей среды и ресурсы (3,3%).

В ФОКУСЕ

## Португалия легализовала эвтаназию

*Парламент Португалии подавляющим большинством голосов легализовал эвтаназию, отменив уголовное наказание за помощь в уходе из жизни по собственному желанию.*

Разрешить эвтаназию с помощью медперсонала для терминальных больных просили несколько общественных групп. В парламент поступили петиции, одну из которых подписали сотни врачей. Петиции получили поддержку социалистических партий и блока «зеленых».

В мае 2018-го подобная инициатива португальским парламентом была отклонена с перевесом в 5 голосов. На этот раз ее одобрили, несмотря на бурные протесты, в которых принимают участие католические организации, ряд местных СМИ и Португальская ассоциация докторов.

Противники эвтаназии называют ее «рецептом расправы» с пожилыми людьми и утверждают, что такой уход из жизни противоречит ключевым принципам медработников. А сторонники настаивают на том, что страдающие от неизлечимых заболеваний пациенты без перспективы улучшения состояния должны иметь легальную возможность добровольно уйти из жизни.

ГОРЯЧАЯ ТОЧКА

## Наемник получил два пулевых ранения и умер

Ночью 22 февраля штурмовая группа 4-й мотострелковой бригады ВС РФ предприняла попытку атаковать опорный пункт 1-го батальона 93-й механизированной бригады близ высоты 195 у села Крымское на Бахмутской трассе, написал украинский военный эксперт **Юрий Бутусов**.

В этом районе позиции сторон разделяет дорога и дистанция примерно в 300 метров. Пользуясь полной темнотой, противник предпринял попытку пересечь Бахмутскую трассу и скрытно зайти на опорный пункт. Однако дежурная смена была начеку, наемников обнаружили с помощью тепловизора, после чего эффективно подавили огнем стрелкового оружия.

Противник бежал, бросив на дороге в 70 метрах от украинских позиций одного своего раненого. Чуть позже его удалось вытащить, он получил два пулевых ранения: одна пуля попала в челюсть, вторая – в живот. У наемника обнаружили документы на имя **Лазарева Андрея Александровича**, родившегося 27 мая 2000 года, бойца 1-го батальона 4-й бригады. Подразделения этой же бригады атаковали позиции на соседнем участке 72-й бригады 18 февраля. У Лазарева был при себе автомат АК-74, гранаты, разгрузочные жилеты российского производства. Поскольку его товарищи не оказали ему помощь, он умер от потери крови сразу после попадания в плен.

С украинской стороны пострадавших нет.

КСТАТИ

### России не отмазаться

Вот и вооруженный инцидент у села Крымское подтверждает, что нет оправдания кремлевским ястребам, которые всячески пытаются отмазаться от прямого участия российских наемников и военных в войне на Донбассе. Кстати, на недавнем заседании Совета Безопасности ООН заместитель министра иностранных дел Украины **Сергей Кислица** заявил, что только в 2019 году на территории, не подконтрольные Киеву, было поставлено 4 тысячи тонн боеприпасов, а вооруженная группировка в самопровозглашенных «республиках» насчитывает около 500 танков, 1000 бронированных машин и 800 артиллерийских установок. Чьи они? Конечно, российские.

СЛЫШАЛИ?

## Президент Швейцарии пригласила на юбилей людей, родившихся с ней в один день

*Президенту Швейцарии Симонетте Соммаруге 14 мая исполняется 60 лет, и она планирует устроить вечеринку, пригласив всех сограждан, родившихся с ней в один день и год.*

В 1960 году – в год рождения Соммаруги – в Швейцарии родилось 94.372 ребенка, это означает, что среднее максимальное количество приглашенных составит 258 человек.

Соммаруга при этом не исключает злоупотреблений со стороны гостей, поэтому просит потенциальных участников праздника представить копию своего паспорта, зарегистрировавшись на президентском сайте.

«Я была бы рада, чтобы вы прошли регистрацию на мой день рождения», – написала Соммаруга в Twitter.



Президент пока держит место проведения праздника в тайне. Она только отметила, что это будет «в районе Берна» – швейцарской столицы.

Должность президента Швейцарии – это в значительной степени церемониальная роль, которую ежегодно занимают представители ведущих политических партий. Соммаруга, член Социалистической партии, которая уже занимала пост президента в 2015 году, вступила в должность 1 января и записала новогоднее обращение в местной пекарне.

СУДЬБА КУМИРОВ

# Как живет сегодня легендарный футболист Пеле?

Трехкратного обладателя Кубка мира по футболу, которого многие по праву считают величайшим игроком всех времен, в прошлом году доставили в больницу с инфекцией мочевыводящих путей. Ранее у 79-летнего Пеле в течение некоторого времени были проблемы с бедром, из-за чего теперь ему нужен специальный каркас для ходьбы. На многие недавние публичные выступления бразильца привозили в инвалидной коляске

По словам сына Пеле, Эдиньо, легендарный бразильский нападающий очень смущен и не хочет выходить из дома из-за проблем со здоровьем. Об этом он сообщил в эфире телеканала Globo. Он также признался, что его отец находится в глубокой затяжной депрессии и ведет жизнь затворника. «Вы только представьте, он Король, отец всегда был такой внушительной фигурой, а сегодня он даже не в состоянии нормально передвигаться», – объяснил Эдиньо.

Он признался, что часто спорил с отцом, когда тот отказывался делать физиотерапию, необходимую для процесса реабилитации после операции на бедре. «Сейчас он довольно слабый, – добавил сын Пеле. – Отцу заменили тазобедренный сустав, и у него не было хорошей реабилитации». Эдиньо уверен, что именно поэтому у легендарного бразильца и возникли проблемы с подвижностью, которые в свою очередь и стали причиной его депрессивного состояния.



В последние годы здоровье легенды бразильского футбола у многих вызывало беспокойство. В 2015 году Пеле сделали операцию на простате. В 2018 году он упал в обморок, после чего был сразу же доставлен в больницу в Бразилии. По результатам обследования ему поставили диагноз «сильное истощение».

В апреле прошлого года он отправился в Париж для рекламного мероприятия с нападающим сборной Франции и клуба «Пари Сен-Жермен» Килианом Мбаппе, после чего был срочно госпитализирован из-за начавшейся судороги и резкого повышения температуры. Известно, что у легендарного футболиста всего одна почка.

Эндосу Арантису ду Насименту, больше известный как Пеле, в этом году отметит 80-летний юбилей. Большую часть своей спортивной карьеры он провел в бразильской команде «Сантос», а затем подписал контракт с нью-йоркским клубом «Космос», в составе которого в 1977 году и отыграл свой последний матч. За 21 год в футболе легендарный бразилец поставил мировой рекорд, забив в общей сложности 1281 гол в 1363 матчах, в том числе 77 голов в 91 матче за Бразилию.

Пеле получил признание и любовь миллионов фанатов по всему миру. Он стал единственным футболистом в истории, которому удалось выиграть три Кубка мира (первый – в 1958 году в возрасте 17 лет).

По окончании своей футбольной карьеры бразилец написал и издал книгу «Я – Пеле». На родине его популярность была настолько велика, что те его соотечественники, которые не умели читать, принялись осваивать грамоту.

В 1994 году Пеле стал Послом доброй воли ЮНЕСКО и много сил и средств потратил на популяризацию спорта и здорового образа жизни. В 1995 его назначили министром спорта Бразилии, а в 1999 году МОК назвал его величайшим спортсменом столетия.

ВОТ ЭТО ДА!

## В Лондоне пациентка сыграла на скрипке во время операции на головном мозге

Так хирурги хотели удостовериться, что не задели области ее мозга, которые отвечают за игру на музыкальном инструменте.

*В больнице Королевского колледжа в Лондоне женщина сыграла на скрипке во время операции по удалению опухоли в головном мозге. Об этом сообщает Associated Press.*

Сначала 53-летняя скрипачка Дагмар Тернер играла перед операцией, чтобы хирурги определили области мозга, которые активны во время игры и отвечают за движения. В начале операции женщина находилась под наркозом, но затем ее разбудили в середине процедуры и снова попросили сыграть, чтобы проверить, что важные области мозга не задеты.

*«Мы знали, насколько важна скрипка для Дагмар, и было жизненно важно сохранить функции в деликатных областях ее мозга, которые позволяют ей играть»*, – сказал нейрохирург Кейумарс Ашкан.

Он добавил, что операция прошла успешно и врачам удалось удалить 90% опухоли.

Дагмар Тернер играет в симфоническом оркестре острова Уайт. Спустя три дня после операции ее выписали, и она собирается в ближайшее время вернуться к занятиям музыкой.

*«Мысль о том, что я потеряю способность играть, была душераздирающей. Но профессор Ашкан – тоже музыкант, и он понял мои проблемы. Он и команда изо всех сил старались хорошо сделать операцию – от составления карты моего мозга до планирования положения, в котором я должна находиться, чтобы играть»*, – рассказала она.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# «Отмыть» «Бурого» не удастся

23 февраля в польской Гайновке – известном центре национального белорусского движения в Польше – прошла акция «Марш проклятых солдат», посвященная памяти капитана Ромуальда Райса, известного под позывным «Бурый».

Чтобы понять, что происходит, нужно вспомнить, кто такой «Бурый» и чем он известен.

Капитан Ромуальд Адам Райс (1913–1949) был руководителем 1-го штурмового отряда Третьей Виленской бригады Армии Крайовой, затем стоял во главе других подразделений АК, храбро сражался против немецко-фашистских захватчиков, пока не возглавил белостокский Отряд специального назначения (PAS), целью которого была борьба с коммунистической властью в Польше. В частности, именно «Бурый» руководил «зачисткой» мест компактного проживания белорусов на территории Белосточчины, причем в результате его рейдов гибли не только те этнические белорусы, которые реально были коммунистическими активистами, но и члены их семей – женщины, старики, дети.

Сейчас капитан Райс, расстрелянный по приговору суда 30 декабря 1949 года, стал одним из символов национал-радикального движения в Польше. Пользуясь свободой слова, митингов и собраний, крайне правые уже в пятый раз организовали «Марш проклятых солдат», целью которого официально является борьба с коммунистическим наследием Польши. Однако сейчас под это «коммунистическое наследие» подгребают все – начиная от жертв «зачисток» «Бурого» и до современных политиков, почему-то не устраивающих крайне правых идеологов. Так, на данной акции кроме портретов самого Райса и его сподвижников несли транспаранты с изображением Адама Михника (известного журналиста, редактора «Газеты Выборчей», в прошлом активиста антикоммунистического подполья в годы военного положения) с лозунгом «Коммуна, прочь!». По их мнению, все, что смещается к политическому центру, что ассоциируется с умеренностью и оппонирует действующей власти, есть продолжение коммунистической традиции.

Нельзя сказать, что власти благоволят крайне правым. И президент Анджей Дуда, и правительство Тадеуша Моравецкого хорошо понимают, что попытка оправдать этнические чистки прошлого якобы имевшей место принадлежностью жертв к коммунистическому движению по меньшей мере сомнительна. В политической практике – прежде всего международной, – она сильно портит репутацию современной Польши. Напомним, что во время своего визита в Польшу председатель Совета Республики Михаил Мясникович специально посетил регион Подляшье, чтобы поддержать местных белорусов и высказать неприятие властями Беларуси подобных проявлений отношения поляков к национальным меньшинствам. Однако и предпринять сколько-нибудь решительные меры против поклонников «проклятых солдат» польские власти не отваживаются: во-первых, они явно не хотят терять голоса крайне правых избирателей, а во-вторых, понимают, что попытка запрета мирного шествия, под каким бы лозунгом (кроме фашистского) оно ни проходило, будет воспринято как нарушение польской Конституции.

При этом польское руководство попадает в своеобразный «капкан памяти»: еще более резко, нежели белорусские власти возражают против попытки «отмыть» соратников «Бурого», участвовавших в уничтожении мирного белорусского населения Подляшья по политическим мотивам, сама официальная Варшава выступает против обеления в Украине руководителя Организации Украинских Националистов (ОУН) Степана Бандеры, сторонники которого, по мнению польских историков, несут ответственность за так называемую «волынскую резню». Напомним, что в общей сложности украинскими националистами в самой Украине и в районе Малой Польши (регион, центром которого является Краков), по разным подсчетам, было уничтожено около ста тысяч поляков – и тоже преимущественно мирного населения. То есть, возражая против культа бандеровцев в Украине, официальная Варшава не спешит противостоять возрождающемуся культу сподвижников Ромуальда Райса.

Вместе с тем жители Польши вовсе не однозначно относятся к истории капитана «Бурого». В то время как 150 человек с транспарантами участвовали в прославляющем его марше, свыше 500 граждан Польши, причем не только этнические белорусы, но и поляки, по сообщению радио «Рацыя», в Гайновке собрались почтить память его жертв. Приехали политики из Варшавы и Белостока, представители белорусского посольства и консульства. Были зачитаны имена жертв «кровавого рейда» 29 января – 2 февраля 1946 года. Настоятель храма Иоанна Крестителя специально прочел Евангелие на белорусском языке и обратил внимание на то, что убитые «Бурым» люди были убиты потому, что они были белорусами.

Человеческая память, к сожалению, избирательна. Люди стремятся забыть то, что им неприятно. Поэтому, я убежден, принципиально важно не использовать исторические факты для современных политических баталий. Нужно расставлять акценты в соответствии с исторической истиной. И никакие идеологические мотивы не могут оправдать организаторов Голодомора в Украине, Холокоста во всей Европе, массовых убийств на Волыни и в Гайновке. Жертвы Катыни, как и жертвы Хатыни, в равной степени ждут от нас скорби и реальных действий, направленных на поддержание мира. Нельзя, чтобы политики вмешивались в историческую науку, а историки руководствовались политическими указаниями властей. Отмыть «Бурого» – какого бы цвета ни были его партийный билет или воинское удостоверение – не удастся. Дело не в Ромуальде Райсе. Дело во всех нас.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# І стане Рагачоў горадам Караткевіча

*Музей культавага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча мясцовыя ўлады вырашылі стварыць у Рагачове, дзе творца падоўгу жыў і пісаў. Адначасова ў парку «Азёрны» маркуецца ўсталяваць памятны знак Гервасію Выліваху – дасціпнаму сярэднявечнаму рагачоўцу, галоўнаму герою аповесці «Ладдзя роспачы», якую Караткевіч напісаў у Рагачове. Сродкі на гэтыя мэты вылучаны з абласнога бюджэту. Гэтую добрую навіну мне пацвердзіў намеснік старшыні Рагачоўскага райвыканкама Павел Бярэзінскі.*

## Знакавае месца ў беларускай літаратуры

Ушанаваць належным чынам памяць Караткевіча ў Рагачове збіраліся ці не з ліпеня 1984 года, калі Уладзіміра Сямёнавіча не стала. За гэта выступалі краязнаўцы, многія літаратары і проста нераўнадушныя да сваёй гісторыі рагачоўцы. Працяглы час гэтая ідэя з розных прычын не разглядалася і не падтрымлівалася.

Вялікая надзея зрабіць Рагачоў горадам Караткевіча была ў 2016 годзе, калі тут ладзіўся Дзень беларускага пісьменства. Дом кнігі і бібліятэку імя Караткевіча адкрылі, але не стварылі ні музея, ні помніка пісьменніку. У той час я абхадзіў тут усе вуліцы, дзе ішла падрыхтоўка да свята. Месцічы ў адзін голас сцвярджалі, што гораду патрэбны манументальныя знакі пашаны да беларускіх класікаў, і найперш, канечне, Караткевіча.

Мясцовы жыхар Уладзіслаў прыгадваў: «Слухайце, мой жа дзед знаўся з Караткевічам. Кніг яго ў нас дома багата. Я сам са школы памятаю «Каласы пад сярпом тваім». У Мінску ў тэатры глядзеў пастаноўку «Ладдзя роспачы». Там жа ўсё пра Рагачоў і рагачоўцаў, пра нашы норавы і характары».




Прасторны дом №59 на вуліцы Чкалава, які паставіў калісьці Васіль Грынкевіч, дзед пісьменніка па кудзелі, знакавае месца. Караткевіч падоўгу жыў у дзедавай хаце, пісаў тут «Зямлю дзядоў», «Ладдзю роспачы», «Сівую легенду», «Віно дажджоў», часткова «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Тут Караткевіч скончыў і адзін са сваіх найлепшых твораў – аповесць «Чазенія». Захаваўся пакой са сталом, за якім працаваў Уладзімір Сямёнавіч.

Некаторыя тутэйшыя рагачоўцы, прыкладам Эдуард Кавалёў, на свае вочы бачылі пісьменніка. Улетку ён часцяком хадзіў з дзедавай хаты загараць на прыдняпроўскі пляж.

## Пісьменнік пацiснуў лётчыка

Забраць дом пад музей Караткевіча ўзамен на кватэру мясцовыя ўлады наважваліся яшчэ ў васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя. Але не дамовіліся. Пазней не схацелі пайсці на ўмовы сваякоў пісьменніка. Урэшце ў 2010 годзе частку вуліцы Чкалава, дзе стаіць знакаміты дом, пераназвалі, надаўшы ёй імя Уладзіміра Караткевіча. Побач усталявалі памятны знак – на адшліфаваным баку ладнага кавалка чорнага граніту выгравіравалі партрэт творцы з надпісам: «Гэты дом многія гады быў творчым прытулкам выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча» .

Тады ж пад Рагачовам у Азярышчах, на месцы, дзе «груша цвіла апошні год», бо «Дняпро падбіраўся да яе спакваля, як разбойнік», паставілі памятны камень. Праз апісанне грушы над ракою Уладзімір Караткевіч уводзіў нас у незабыўны свет гістарычнага рамана «Каласы пад сярпом тваім», прысвечанага падзеям напярэдадні паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі.

Знакавы дзедаў дом у горадзе тым часам старэў. Пачарнела шалёўка, даўно не бачылі фарбы аканіцы. Жыллё патрабуе добрага рамонту. Як паведамілі ў райвыканкаме, зараз сваякі Караткевіча (а гэта яго стрыечны брат з жонкай і сынам) ужо не супраць абмену. Застаецца перавесці дом у камунальную ўласнасць, адрамантаваць і стварыць цікавыя экспазіцыі. Апошняе зрабіць будзе, мусіць, няпроста, бо сваякі Караткевіча перадавалі яго здымкі і некаторыя рэчы ў музей пісьменніка ў Оршы. Пра гэта мне паведаміла гаспадыня дома – спадарыня Тамара. Вяртаць тыя рэчы назад ці шукаць нейкае іншае выйсце, вырашаць музейным спецыялістам.

## Сцяжына гонару і пашаны

Рагачоў і ўвесь тутэйшы край – сакральная мясціна беларускай літаратуры, скарбонка літаратурных талентаў. Уражвае нават просты пералік імёнаў беларускіх творцаў, чыё нараджэнне, творчасць звязаны з тутэйшымі мясцінамі. Задумацца толькі: Уладзімір Караткевіч, Міхась Лынькоў, Андрэй Макаёнак, Мікола Сурначоў, Рыгор Суніца, Васіль Гарбацэвіч, Алена Васілевіч, Алесь Жаўрук, Фёдар Янкоўскі, Аляксей Зарыцкі, Анатоль Вярцінскі, Васіль Ткачоў, Мікола Янчанка, Уладзімір Мехаў, Наста Кудасава. Лічыць не пералічыць. Адны з іх нарадзіліся на Рагачоўшчыне, іншыя, як Алесь Жаўрук (Сінічкін) ці Алена Васілевіч, вучыліся ў настаўніцкай семінарыі-інстытуце ці, як Уладзімір Караткевіч, жылі падоўгу, ствараючы шэдэўры беларускай літаратуры.

Усё гэта павінна падштурхнуць дзяржаўных службоўцаў, міністэрствы і творчыя саюзы, інтэлігенцыю зрабіць раён месцам ушанавання беларускага пісьменства. І будучы брэнд Рагачова як горада Караткевіча і яго творчасці – выдатны крок на гэтым шляху.

Дарэчы будзе і гістарычна-літаратурная сцяжына, якую прапануюць мясцовыя краязнаўцы і шанавальнікі нацыянальнай літаратуры. Ад Замкавай гары праз цэнтральную частку, паўз былы тэатр «Мадэрн», Вазнясенскую царкву, касцёл Антонія Падуанскага, семінарыю, дзе вучылася багата беларускіх пісьменнікаў. І сцяжына гэтая прывядзе да дома-музея Уладзіміра Караткевіча. Спатрэбяцца, канечне, рэкламныя пазнакі кшталту сіцілайтаў ці пілонаў. Бо далёка не ўсе рагачоўцы ведаюць, лёсы якіх творцаў былі звязаны з Рагачовам, не кажучы ўжо пра турыстаў ды іншы прыезджы люд.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
**Фота аўтара.**

АДРАДЖЭННЕ

# На свята беларускай мовы прыйшлі больш за 10.000 чалавек

*«Мова Фэст» – пад такой назвай у Мінску прайшло свята з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы.*



Арганізавала яго некамерыйная арганізацыя «Арт Сядзіба» і крама нацыянальных сувеніраў «Symbal.by» пры падтрымцы дзясяткаў грамадскіх і дзяржаўных арганізацый, а таксама творчых калектываў.

Вопратка з нацыянальнай сімволікай, сувеніры, беларускія часопісы і кнігі – усё гэта можна было набыць на гандлёвых пляцоўках свята. Акрамя таго, кожная кампанія прапаноўвала пакупнікам падарункі за ўдзел у конкурсах і квестах на веданне беларускай мовы.

Так, генеральнымі партнёрамі свята сталі бровар «Аліварыя», банк «Дабрабыт», партал аб нерухомасці «Realt.by» – усяго каля пяцідзесяці кампаній, арганізацый і творчых калектываў.




Ганаровым госцем і ўдзельнікам свята стаў вядомы спартсмен Віталь Гуркоў, які правёў майстар-клас «Тайскі бокс па-беларуску». А на завяршэнне адбыўся канцэрт беларускіх гуртоў з удзелам «Vuraj» Сержука Доўгушава і Лявона Вольскага.

**Галіна АБАКУНЧЫК.**

РЭГІЁН

# 600 долараў у месяц за арэнду кватэры ў раённым цэнтры

*У Астраўцы Гродзенскай вобласці, дзе заканчваецца будаўніцтва атамнай станцыі, звычайную двухпакаёвую кватэру агульнай плошчай 41,2 квадратнага метра прапануюць арандаваць за 1319 рублёў у месяц. І гэта яшчэ не мяжа...*

Падобныя аб’явы на сайтах не адзінкавыя. Прычым уласнікі не распісваюць асабліва ўсіх вартасцяў сваіх кватэр, не заваблiваюць нейкімі сучаснымі суперрамонтамі, а папросту пералічваюць, што ў кватэры ёсць з неабходнай мэблі і іншых бытавых рэчаў. Праўда, звычайна сустракаецца прыпіска: пажадана для супрацоўнікаў АЭС.

Цікава, што такіх цэн на арэнду падобных кватэр няма не толькі ў Гродне і іншых абласных цэнтрах, але нават у Мінску.

Я вырашыў пацікавіцца ў астравецкіх арэндадаўцаў, чаму такія высокія цэны ў раённым цэнтры і ці здымае нехта кватэры за такія грошы.

Тэлефаную ўласніку кватэры на вуліцы Ленінскай, 11. Агульная плошча – 41,2 квадратнага метра, жылая – 28, ёсць бытавая тэхніка і мэбля. Цэнтр горада. Цана – ледзь не 600 долараў у месяц.

Цікаўлюся: ці няма памылкі ў кошце арэнды кватэры?

Мужчынскі голас з прыемным беларускім акцэнтам запэўнівае, што памылкі няма, але па суме можна дамаўляцца, і цана можа апусціцца да 500 долараў.

– Але гэта ўсё роўна дорага...

– Так, дорага, але ў нас такія цэны ў горадзе, – не бянтэжыцца арэндадаўца.

– Няўжо нехта здымае ў Астраўцы кватэры за такія грошы? – пытаюся з вялікім здзіўленнем.

У адказ мужчына абсалютна спакойна адказвае, што здымаюць, і таксама ўпэўнена дадае, што на арэнду кватэр у горадзе вялікі попыт, а таму, маўляў, і цана адпаведная.

– І я разумею, што дорага, і ўсе тут разумеюць, але рынак дыктуе свае ўмовы. Вы каму ні патэлефануеце, вам адкажуць тое самае. Наўрад ці вы знойдзеце нешта больш таннае, – спакойна, без надрыву ў голасе патлумачыў мужчынскі голас.

Я вырашыў пацікавіцца, хто ж у іх горадзе за такія грошы здымае кватэры. Аказваецца, разлік на расійскіх спецыялістаў, якія працуюць на будаўніцтве атамнай станцыі. Той жа голас удакладняе, што яны арандуюць кватэры максімум на месяц альбо на два. Маўляў, могуць сабе дазволіць, бо часткова арэнду аплачвае арганізацыя, у якой яны працуюць. А таму нічога дзіўнага няма.

Далей весці са мной размову мужчыну стала нецікава, і ён ветліва развітаўся.

Гаспадар двухпакаёвай кватэры па вуліцы Валадарскага, 7 просіць за кватэру 850 долараў у месяц, альбо 1869 рублёў. Агульная плошча складае 48,7 квадратнага метра, жылая – 42,8. У аб’яве гаворыцца, што ў кватэры зроблены добры рамонт і яна здаецца на доўгі тэрмін.

Гаспадар ветліва выслухоўвае маё здзіўленне наконт такой высокай арэнднай платы і таксама ветліва адказвае, што я не памыліўся, яна такая, як напісана ў аб’яве, і яе, маўляў, сфарміраваў рынак.

– Нехта просіць больш, нехта менш, у выніку кожны зарабляе столькі, колькі можа зарабіць, і гэта, у прынцыпе, усё, што я магу вам сказаць, – такая кароткая размова адбылася.

Была спроба паразмаўляць з гаспадыняй кватэры ў Ашмянах – гэта ў 18 кіламетрах ад Астраўца. У аб’яве выстаўлена цана арэнды кватэры ў 700 долараў. Праўда, жанчына, даведаўшыся, што я не з Расіі, адказала, што кватэру ўжо прадала.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЛИЧНЫЕ ИСТОРИИ

# Три невесты и один жених

*Казалось бы, вот-вот... Но дело-то до свадьбы так и не дошло. Почему?*

### «Хватит! Сколько можно?»

Не знаю почему, но мне хотелось, чтобы жена у меня была врачом или медсестрой. И обрадовался, когда узнал, что моя новая знакомая работает в больнице именно медсестрой. Ну, думаю, надо присмотреться более внимательно, а вдруг (чем черт не шутит) та самая, которую ищу.

Однажды говорю ей: «Давай заглянем в магазин, хочу костюм посмотреть – поможешь подобрать». – «Давай, – охотно согласилась девушка. – Дорогой или так себе?» – «Там будет видно».

Заходим в магазин. Я – туда, где мужские костюмы, а она – в секцию женского белья. То один костюм примерю, то другой, а моей девушки все нет и нет. Продавец не очень-то подходящий советчик (ничего конкретного сказать не может). Стою, жду…

Наконец-то с наполненной сумкой появляется моя подруга. «Ты долго еще будешь тут копаться? Хватит! Сколько можно?» – ошарашила она своими вопросами. И строго добавила: «Пошли отсюда, здесь жарко, дышать нечем».

Этого мне хватило для того, чтобы в наших, как мне казалось, очень добрых отношениях поставить точку. Мы молча дошли до остановки автобуса и, не сказав ни слова, я сел в маршрутку и задумался: а что будет, если я на ней женюсь? Что? Что? Что? Ничего хорошего.

На ее просьбы встретиться, поговорить, сходить в кино или куда-то на концерт я отвечал уклончиво, придумывая различные причины. Со временем она все поняла и перестала мне звонить.

### Ни стыда ни совести. А замуж хотела…

Матери стало плохо (из деревни она приехала ко мне в гости), я вызвал «скорую помощь». В квартиру вошли врач-мужчина и девушка-медсестра. Они сделали матери укол, дали какие-то таблетки и уехали. На следующий день утром (!) вчерашняя медсестра появилась у нас снова. «Я закончила дежурство и по дороге домой решила к вам заглянуть, чтобы узнать, как у вас дела», – сказала неожиданная гостья. Измерила она температуру, давление и… вижу, не очень-то спешит уходить. В основном то об одном, то о другом разговаривает со мной.

«Вот оно, – подумал я, – то, что мне надо, – медсестра. И собой хороша, и сообразительна во всем». То да сё – и мы начали встречаться. Идем однажды с ней в Минске по проспекту Независимости. Навстречу нам Миша, мой однокурсник по университету (живет и работает в Борисове). Ну как не отметить такую неожиданную встречу? Я предлагаю ему поехать ко мне домой, а заодно и девушке.

Приезжаем… Сидим, выпиваем, вспоминаем годы учебы. Миша все чаще и чаще посматривает не на меня, а на мою девушку. Разговор как бы переходит к ней. Что делать? Культурно, вежливо проводить его на автобус? Можно. Но, вижу, моя девушка проявила к нему какой-то непонятный для меня интерес. Что же, думаю, будет дальше? Мне очень даже хотелось бы знать, так как у меня уже созревало намерение предложить ей выйти за меня замуж. Решил: что будет – пусть то и будет. «Извините, – говорю им, – не хотел бы курить в квартире, я выйду на улицу…»

Оба промолчали. Минут через двадцать захожу в квартиру и вижу (не поверите!): мой друг-однокурсник и моя подруга занимаются… сексом. Причем так увлеклись, что даже не заметили меня.

Другой бы на моем месте устроил скандал, поколотил бы обоих как следует и выгнал бы из квартиры. «Зачем? – подумал я. – Что случилось, того уже не исправишь». Решил не трогать. Кульнул пару рюмок водки, зашел в другую комнату, достал из шкафа зимнее пальто, положил под бок, накрылся плащом и… уснул. Когда проснулся – моих гостей уже не было.

### «Зятек, я куплю тебе машину»

Третья история. Со своей подругой меня познакомила жена моего друга. Обе работают медсестрами в поликлинике. Будущая кандидатка в жены серьезно вцепилась в меня. И на работу ко мне приезжала, и с работы меня встречала, и на концерты билеты покупала, и в выходные дни за город меня тащила. Короче говоря, я уже подумал: все – я влип! Видимо, жена моего друга уж очень хорошо меня отрекомендовала. Мне даже начало нравиться: чем плохо, если жена не тямтя-лямтя, а энергичная, боевая, пробивная (мне легче будет решать семейные проблемы)? Разве не так?

И вот однажды моя подруга мне говорит: «Я купила два билета. В пятницу поедем ко мне домой, в деревню». «А с кем ты поедешь?» – спросил я. «Как с кем? С тобой, – бойко ответила она. – Посмотришь, где я родилась, где жила, училась. Отдохнем, в речке искупаемся. Сходим в лес, пособираем ягод… Неужели ты не хочешь?» Девушка прижалась ко мне и чмокнула в щеку…

Когда мы зашли в деревенский дом, я понял, что нас тут уже ждали. Стол был накрыт, не обошлось без вина и самогонки. Скоро подошли соседи – тети и дяди моей подруги. После сытного застолья гости стали расходиться по домам, а отец девушки похлопал меня по плечу и сказал: «Ну что, зятек, пойдем покурим». «Ничего себе, – подумал я. – Попал как кур во щи». Что-то говорить, отнекиваться от чего-то или соглашаться с чем-то не было никакого желания. Чтобы «тестя» не обидеть, я прикинулся пьяным. Что-то мямлил, но ни с чем не соглашался. «Зятек, я куплю тебе машину, – говорил он. – Будешь к нам с дочкой приезжать в гости: отдыхать здесь, проводить отпуски…»

Не помню, чем закончился этот разговор, но меня потянуло ко сну. Я попросил хозяйку дома, чтобы она разрешила мне переночевать в сарае на ароматном сене.

У подруги я никогда не спрашивал, зачем был организован весь этот хорошо продуманный «захват» холостяка, так как не видел в этом никакого смысла. Решил тогда: посмотрим, что будет дальше.

А дальше все прояснилось само собой, встало на свои места. Девушка предложила мне встретиться после работы. Иду в назначенное место и время, смотрю – ждет. «Зайдем в кафе, поужинаем», – предлагаю ей. «Зайдем, – отвечает она. – Но я уже дома поужинала». Садимся за столик. Я взял себе что-то к ужину плюс две чашки кофе (одну себе, вторую – ей). «О-о! – говорю подруге, – я забыл вилку взять. Подай мне. Вон там, возле стойки вилки в стакане. Видишь?» «Я что тебе, лакей? – раздраженно ответила она и едким голосом добавила: – Сам не можешь? Сходи и возьми».

Все! Меня резануло, словно молнией. Все рухнуло. Нервы вспыхнули, не знаю, как я их сдержал. И ни слова в ответ. Нетронутым оставил ужин и молча вышел из кафе. Просто шел по проспекту и думал лишь о том, что все кончено. Все! Если еще даже не подали заявления в загс, то что будет потом? Простить девушке неожиданный «взрыв»? Нет! Никогда и ни за что. Жениться на ней? Да я что, дурак? Потом всю жизнь с ней мучиться? Нет уж! Извините.

После этого свою «будущую жену» я никогда не видел. Говорят, до сих пор она не замужем.

Прошли годы… Сейчас у меня все в порядке. Хорошая жена (не медработник), замечательные дети, прекрасные внуки. Моим бывшим девушкам, с которыми я встречался, желаю всего того, что они сами себе желают.

**Александр АДРОВКА.**

РЭГІЁН

## У Лідзе ствараюць філіял універсітэта

*Аб гэтым на адной з нарад паведаміў першы намеснік старшыні Лідскага райвыканкама* ***Ігар Квасоўскі****.*

Адкрыццё філіяла Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы плануецца на базе Лідскага каледжа. Для вырашэння аператыўных пытанняў па гэтай тэматыцы ўжо створаны Каардынацыйны савет, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі Гродзенскага ўніверсітэта, Лідскага каледжа і райвыканкама.

Зараз праводзіцца работа па вывучэнні патрэбы ў спецыялістах з вышэйшай адукацыяй у Воранаўскім, Іўеўскім, Навагрудскім, Шчучынскім, Дзятлаўскім і Карэліцкім раёнах.

Апроч гэтага, лідскія ўлады маюць намер адкрыць у раённым цэнтры філіял Гродзенскага навукова-тэхналагічнага парка. Усё гэта робіцца з мэтай стварыць умовы для таго, каб таленавітая моладзь не выязджала ў іншыя гарады, а мела магчымасць вучыцца і працаваць у сваім рэгіёне.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

АРТ-ЖИЗНЬ

## Сталь и бархат Примадонны



Сегодня в Большом театре мы услышим одну из самых интересных, ярких певиц нашего времени – великолепную **Надежду Павлову,** солистку прославленного Пермского театра оперы и балета. Ее легкое, но при этом богатейшее по нюансировке сопрано, артистическое обаяние и драматический дар высоко котируются в элитном вокальном эшелоне Европы. Она победительница многих престижных конкурсов, любимица знаменитого маэстро Теодора Курентзиса (а это по определению знак качества), а также приглашенная солистка двух Больших театров – России и Беларуси. В принципе, мы можем гордиться тем, что жюри Минского международного конкурса вокалистов еще в 2015 году со снайперской точностью именно Надежде Павловой отдало Гран-при. Очень скоро певица завоевала Национальную премию России «Золотая маска», получила звание заслуженной артистки и вообще награды пролились на нее, как говорится, золотым дождем. Который, конечно, был предопределен титанической работоспособностью Павловой и большим природным талантом. Но в том-то и высокое мастерство артистки, что тяжесть труда не видна ни одному человеку. На сцене ты королева, на сцене ты примадонна. Всё бархат и мед. Занавес опускается – и требуется сталь характера, чтобы, как раб, с утра идти в класс и служить своему таланту.

Только что в Москве в Большом театре с участием Надежды Павловой отгремела премьера оперы Римского-Корсакова «Садко», о которой написали буквально все престижные СМИ: кто захлебываясь от восторга, кто – от негодования (что всегда бывает на постановках режиссера Чернякова). В Минске Надежда выступит в опере Верди «Риголетто». Как призналась певица на пресс-конференции перед спектаклем, она впервые выйдет в партии Джильды, так что мы с вами сегодня сможем присутствовать на своеобразной творческой премьере примадонны. Вместе с ней в спектакле будут участвовать Владислав Сулимский, блестящий баритон из Мариинского театра, один из лучших исполнителей партии Риголетто в мире, а также молодой певец Павел Петров – тенор из Австрии, год назад победивший на конкурсе «Опералия», который проводит легендарный Пласидо Доминго. Оба они при этом – и Сулимский, и Петров – наши соотечественники, белорусы, сделавшие, несомненно, солидную международную карьеру. Большой театр Беларуси давно стал площадкой, которую не пропускают в своих гастрольных маршрутах лучшие певцы современности.

**Елена МОЛОЧКО.**

СІТУАЦЫЯ

## Ці падала Арына Сабаленка ў суд на свайго крыўдзіцеля?

*Месяц таму беларуская тэнісістка збіралася правучыць агрэсіўнага інтэрнэт-каментатара.*



Пасля таго як **Арына Сабаленка** падчас Адкрытага чэмпіянату Аўстраліі прайграла іспанцы **Карле Суарэс-Навара** ўжо ў першым крузе турніру, адзін з каментатараў у «Інстаграм» даволі рэзка выказаўся ў адрас спартсменкі і яе блізкіх.

Адзначым, што ў лістападзе мінулага года ва ўзросце 44 гадоў памёр бацька Арыны. Спартсменка ў інтэрв'ю заўсёды адзначала, як шмат у яе жыцці і ў станаўленні яе кар'еры зрабіў бацька. Менавіта ён у свой час прывёў дачку ў секцыю тэніса і першыя гады суправаджаў яе на турнірах.

«*Бацька сам быў хакеістам, добра разумее, што адбываецца ў маім жыцці, і падтрымлівае мяне як можа*, – расказвала тэнісістка. – *А вось мама неспартыўны чалавек. Вельмі жаноцкая, можа сагрэць цёплымі словамі, калі я маю ў гэтым патрэбу*».

Нейкі каментатар у сваіх паведамленнях у інтэрнэце абражаў спартсменку і яе сям'ю, дазволіўшы сабе нават прыстрашыць Арыну, што тая не даляціць да дома.

«*Цікава, як цябе зямля носіць?* – адказала спартсменка – *Не дзіўна, што ты няўдачнік! Заяву ў паліцыю, лічы, я ўжо напісала. Ты пераступіў мяжу, напісаўшы так пра маю сям'ю, тым больш у такі момант жыцця... Знайсці цябе было не так ужо і складана, таму жадаю поспехаў*».

Абмяркоўваючы гэтую навіну, многія карыстальнікі форумаў раілі Арыне Сабаленка не рэагаваць на такіх неадэкватных людзей.

*«Вось рэальна не разумею: навошта ўступаць у палеміку з ідыётам, тым больш віртуальным? Бо яму толькі таго і трэба! Гэта сведчыць пра тое, наколькі Арына яшчэ не дарослая».*

*«Ды навошта гэтыя сацыяльныя сеткі наогул патрэбныя, асабліва публічным людзям? Увагі не хапае? Трыбуна для самавыяўлення? Нейкія неадэкваты з няўстойлівай псіхікай туды пішуць, а яна ім адказвае. Галаву непатрэбнай справай забівае. Пра тэніс няхай бы думала, пра кар'еру».*

Сама тэнісістка пра гэту справу больш ніякіх афіцыйных заяў не рабіла, апошнім часам яна выступала на турніры ў Дубаі, дзе дайшла да чвэрцьфіналу і прайграла другой ракетцы свету **Сімоне Халеп.**

«*Арына была вельмі ўзрушана не столькі абвінавачваннямі ў свой адрас (хаця гэта таксама непрымальна), колькі ў адрас сям'і*, – распавёў «Народнай Волі» чалавек, які знаёмы з гэтай сітуацыяй. – *Толькі памёр бацька. Уяўляеце, што давялося перажыць сям'і і Арыне ў прыватнасці? Іншы пасля такой трагедыі наогул не змог бы ачомацца псіхалагічна, а спартсменцы трэба было яшчэ знаходзіць у сабе сілы трэніравацца, браць удзел у турнірах і жыць з трагедыяй у душы. Гэта вельмі складана!*

*І тут нейкі неадэкватны чалавек (а такіх, трэба сказаць, на форумах воз і маленькі вазок) пачынае калупаць нажом рану. Натуральна, першая рэакцыя Арыны – адказаць так, каб запомніў на ўсё жыццё. Знайсці і пакараць.*

*Але, наколькі мне вядома, пакуль спартсменка заяву ў праваахоўныя органы не пісала і гэтай справай не займалася, бо трэба было рыхтавацца да новых турніраў і не адцягваць увагу на такія дробязі. Хаця не выключана, што даручыла гэтай справай займацца сваім адвакатам*».

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## У Зэльве школьнікі робяць паперу з трыснягу

Папера з трыснягу экалагічная і здольная замяніць не толькі поліэтыленавую ўпакоўку, а нават і тую, якую вырабляюць з дрэва. Тэхналогія распрацавана, патрэбны інвестыцыі, каб запусціць вытворчасць.

Распрацавала ідэю і давяла да рэалізацыі настаўніца хіміі адной з Зэльвенскіх школ **Наталля Гром** разам са сваімі вучнямі.

– Каб атрымаць паперу з трыснягу, трэба мінімальны набор інструментаў, – распавядае «Народнай Волі» адна з удзельніцаў праекта **Караліна Багдановіч**. – Трыснёг здрабняюць з дапамогай блэндара, затым выварваюць у звычайнай вадзе каля чатырох гадзін, выціскаюць і кладуць пад прэс.

На ліст такой паперы фармату А4 сярэдняй шчыльнасці, паводле слоў нашай суразмоўніцы, патрэбна каля 25 грамаў трыснягу. Сабекошт складае 30 капеек з улікам усіх затрат на электрычнасць, ваду і іншае.

Зараз вытворчасцю паперы настаўніца хіміі разам з вучнямі займаецца ў школьнай лабараторыі. У праекце задзейнічаны 20 старшакласнікаў, якія самі выказалі жаданне ўдзельнічаць у ім.

З біяраскладальнай паперы, са слоў Караліны, можна вырабляць усё, як і са звычайнай: візіткі, альбомы для фотаздымкаў, экаўпакоўку і многае іншае.

– Пакуль нашай распрацоўкай зацікавіліся толькі мастакі, якія рэалізуюць яе ў сваёй дзейнасці, – заўважае дзяўчына. – Нядаўна мы прадавалі паштоўкі з нашай паперы з выявай Лідскага замка на ярмарцы ў Лідзе. Але, каб паставіць гэта на вытворчую аснову, патрэбны інвестыцыі ў абсталяванне і іншае.

Дарэчы, зэльвенскія вадаёмы і рэкі багатыя на сыравіну – яны вельмі хутка зарастаюць трыснягом. Нарыхтоўка трыснягу не шкодзіць экасістэме, так як расліна аднаўляецца двойчы на год.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПАМЯЦЬ

## Язэпа Драздовіча ўшанавалі ў Глыбокім




Дошку памяці выдатнага беларускага мастака і пісьменніка Язэпа Драздовіча ўсталявалі ў Глыбокім – на доме №111 па вуліцы Максіма Горкага, дзе жыў удзельнік Першай сусветнай вайны Вікенцій Дрозд. Язэп Драздовіч, які не меў свайго дому і вёў вандроўны лад жыцця, сябраваў з сям'ёй Драздоў, наведваўся ў госці, часам падоўгу жыў у іх. Як прыгадала сённяшняя гаспадыня дому Зоя Голікава (Дрозд), «у нас была вялікая печ, дык Язэп Нарцызавіч любіў на ёй грэцца. Пэўны час ён выкладаў у Глыбоцкай гімназіі маляванне, і мая стрыечная сястра вучылася ў яго. Расказвала пра свайго настаўніка з захапленнем».

Паводле слоў глыбоцкага краязнаўца Уладзіміра Скрабатуна, на той жа вуліцы Горкага жыло шмат знакамітых людзей, сярод якіх Паўліна Мядзёлка. Варта было б і яе памяць ушанаваць.

Аўтар мемарыяльнай дошкі памяці Язэпа Драздовіча – скульптар Аляксандр Тухто, а фундатарам стала сям'я Сабалеўскіх.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ЗАКУЛІССЕ

# Як маладзее стогадовы тэатр

Такога, бадай, раней не было. Цягам амаль усяго мінулага года ў самым цэнтры Мінска, на праспекце Незалежнасці, ля выхадаў з метро «Кастрычніцкая» на трох вялікіх рэкламных шчытах Купалаўскага тэатра віселі афішы трох новых спектакляў, якія паставілі маладыя рэжысёры. «Вешальнікі» – **Віталь Краўчанка**, «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» – **Алена Ганум**, «Ураджай» – **Дзмітрый Цішко**. Усе яны – нядаўнія выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў, рэжысёрскай майстэрні **Мікалая Пінігіна**, мастацкага кіраўніка Тэатра імя Янкі Купалы. Ён жа і абвясціў дзевяноста дзявяты, перад'юбілейны, сезон сезонам сваіх вучняў. І ўсе трое цяпер ужо штатныя рэжысёры тэатра. Гэта ўнікальны давер майстра, а таксама маніфест найстарэйшай драматычнай сцэны краіны пра сваё амаладжэнне і творчае абнаўленне.



Сцэна са спектакля «Ураджай» (рэжысёр Дзмітрый Цішко).

Чаму я называю гэта ўнікальнай падзеяй? Хіба ж не святая справа – даць пастаноўкі сваім вучням? Яно так, але далёка не кожны мастацкі кіраўнік гэта робіць, паколькі або не хоча рызыкаваць, або баіцца канкурэнцыі ў будучыні. Звычайна ў беларускіх тэатрах далей за права на дэбют справа не ішла. Тут жа Пінігін з пяцярых сваіх гадаванцаў узяў у тэатр аж трох на рэжысёрскія пасады. Яшчэ аднаго – **Антона Макуху** – залічыў у трупу ў якасці акцёра, але ўжо праз год той вырашыў як рэжысёр выправіцца ў вольнае плаванне і цяпер спрабуе свае сілы на альтэрнатыўных пляцоўках.

Алена Ганум і Дзмітрый Цішко, натуральна, пад мастацкім кіраўніцтвам майстра, нават атрымалі права на пастаноўкі сваіх дыпломных спектакляў на Камернай сцэне Купалаўскага. З іх і пачынаецца пакуль яшчэ кароткая гісторыя гэтай пляцоўкі. Іх дыпломныя спектаклі ідуць аж да сёння.

П'есу расійскага аўтара **Пятра Гладзіліна** «Каханне як мілітарызм» Дзмітрый Цішко паставіў у форме камедыйнай «гульні ў вайну». Героі спектакля замест таго, каб жыць у каханні і ладзе, вядуць паміж сабой змаганне. Спектакль вырашаны ў падкрэслена ўмоўнай, гульнявой форме і адпаведнай манеры акцёрскага існавання, мае свайго, пераважна маладога, гледача.

«Шабанам», якія яшчэ ў студэнцкія гады абрала для пастаноўкі Алена Ганум, ужо сама літаратурная аснова – раман моднага беларускага пісьменніка **Альгерда Бахарэвіча** – абяцала глядацкі поспех. І ён напаткаў гэты пластычна выразны і псіхалагічна дакладны спектакль пра расставанне з радзімай і абавязковае вяртанне на яе. Сцэнічны твор ужо больш за чатыры гады захоўваецца ў рэпертуары. Не меней паспяховым стаў і яе наступны спектакль «Зямля Эльзы» **Яраславы Пуліновіч** – кранальная псіхалагічная драма пра права чалавека на сваё шчасце ў любым узросце. Пасля гэтых пастановак стала відавочным, што Алена Ганум гатова да працы на вялікай сцэне з вопытнымі купалаўскімі акцёрамі.

Што да Віталя Краўчанкі, дык ён пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў шукаў рэжысёрскага шчасця і набываў вопыт у Магілёўскім абласным тэатры, дзе самастойна паставіў дыпломны спектакль «Браты і Ліза» **Аляксея Казанцава**, працаваў у Гомельскім гарадскім маладзёжным тэатры, у сталічных Сучасным мастацкім тэатры і «Альфа-тэатры». Яго заўважыла крытыка, яго палюбілі акцёры, а спектакль «Метад» **Жордзі Гальсерана**, пастаўлены ў Гомельскім маладзёжным тэатры, нават быў уганараваны Нацыянальнай тэатральнай прэміяй як лепшы спектакль малой формы. Такім чынам, па вялікім рахунку Мікалай Пінігін не вельмі рызыкаваў, калі даверыў маладому рэжысёру, які ўжо вызначыўся як прыхільнік псіхалагічнага тэатра акадэмічных формаў, пастаноўку вельмі складанай п'есы «Вешальнікі» **Марціна Макдонаха**, гэтак званага «Шэкспіра нашых дзён».

Абвешчаны адказным мастацкім кіраўніком тэатра Мікалаем Пінігіным «сезон сваіх вучняў» трупа тэатра, добразычлівыя гледачы і прафесійныя крытыкі ўспрынялі як цікавы, перспектыўны і паспяховы.

На Вялікай купалаўскай сцэне перад Аленай Ганум і Віталем Краўчанкам паўсталі складаныя задачы. І першая – не губляючы сябе, сваімі спектаклямі ўпісацца ў традыцыю і мастацкую скіраванасць калектыву. Творы, якія яны мелі ўвасобіць, адпавядалі гэтым патрабаванням – маштабныя, густа населеныя персанажамі, псіхалагічныя. Можна ўпэўнена канстатаваць – а гледачы сваім рублём гэта пацвярджаюць, – што гадаванцы Пінігіна паставілі спектаклі, насамрэч вартыя гэтай нацыянальнай сцэны.

Алене Ганум пры ўвасабленні на сцэне «Шляхціца Завальні» Яна Баршчэўскага чарговым разам трэба было шукаць драматызм і сцэнічнасць у празаічным творы, гэтым разам ужо ў класічным тэксце, прынцыповым для нацыянальнай літаратуры і культуры ўвогуле. Безумоўна, можна прычапіцца да інсцэніроўкі. Як па мне, менавіта ў працы рэжысёра з драматургам **Сяргеем Кавалёвым**, які адаптаваў прозу для сцэны, і крыюцца пэўныя хібы спектакля – адыход на другі план цэнтральных герояў (Завальні і Баршчэўскага) і нечаканы вывад на першы план персанажаў падпарадкаваных, задужа наўмысную скіраванасць падзей у сучаснасць, у тэму згубы дзяржаўнасці і культурнай адметнасці Беларусі. Але ні ў якім разе не адмовіш спектаклю ў відовішчнасці, маляўнічасці. Сцэны-містыфікацыі, этнаграфічныя замалёўкі, пластыка герояў, якая становіцца ўжо відавочнай адметнасцю рэжысёра Алены Ганум, выклікаюць захапленне гледачоў. Зрэшты, як і вельмі прыгожая, казачная, метафарычная сцэнаграфія зусім маладога сцэнографа **Кацярыны Шымановіч**. Да таго ж у спектаклі цэлы россып яркіх акцёрскіх прац, з якіх я вылучыў бы акрамя, натуральна, работ майстроў Генадзя Аўсяннікава і Тамары Міронавай вобразы, створаныя маладымі ці адносна маладымі артыстамі **Іванам Трусом** (Доктар Шэльмер), **Аляксандрам Казелам** (Белая Сарока), **Валянцінай Гарцуевай** (Пані Амелія), **Крысцінай Дробыш** (Агапка), **Андрэем Дробышам** (Карпа). Хто б што ні пісаў, як бы ні выдумляў свой спектакль і ні падганяў пад яго купалаўскі, сцэнічны твор атрымаўся і выклікае надзвычайную цікавасць публікі. Побач з вечнай «Паўлінкай» і шлягерам Мікалая Пінігіна «Ноч на Каляды» ён сёння самы касавы, самы «сямейны», і квіткі на яго распрадаюцца імгненна.

Яшчэ адзін рэжысёр-дэбютант на вялікай купалаўскай сцэне Віталь Краўчанка заўсёды ў пошуку вострасацыяльнай і псіхалагічнай драматургіі. Яго рэжысура скіравана на артыста, найперш праз якога Краўчанка імкнецца данесці ідэю твора. Менавіта таму пры адсутнасці глыбокіх і драматургічна дасканалых п'ес айчынных аўтараў ён шукае матэрыял для сваіх пастановак у сусветнай рэпертуарнай прасторы. Ён сам прынёс у тэатр «Вешальнікаў» Марціна Макдонаха – п'есу, з аднаго боку, універсальную (пра межы зла, ступень адказнасці за яго чалавека і грамадства), з другога – асабліва актуальную для Беларусі (адмена смяротнага пакарання). Гэтую праблематыку рэжысёр раскрыў дасканала. Але з жанрам «чорнай камедыі», як і Алене Ганум з інсцэнізацыяй, таксама давялося пазмагацца. Жанр зусім не ўласцівы беларускай сцэне, чорны гумар увогуле не ў ментальнасці беларусаў, а значыць, і акцёрам яго цяжка данесці. У асобных сцэнах рэжысёр і акцёры прарываліся ў нязвыклую для нас паэтыку Макдонаха, у іншых жа пераходзілі на публіцыстыку. Але зноў жа – ёсць відовішча, ёсць дакладнае пасланне публіцы пра абсурднасць і неапраўданасць смяротнага пакарання ў сучасным грамадстве і пра тое, што былых ка́таў не бывае. І ёсць узор сучаснага псіхалагічнага тэатра. Спектакль адрасаваны сур'ёзнай, інтэлектуальнай публіцы, і ён яе заваяваў.

Трэцім у «сезоне вучняў Пінігіна» быў спектакль на Камернай сцэне Дзмітрыя Цішко «Ураджай». Крыху раней ён папрацаваў у якасці рэжысёра над спектаклем «Рэвізор», пастаноўшчыкам якога на Вялікай сцэне быў Мікалай Пінігін. А ў мінулым сезоне Дзмітрый вярнуўся на Камерную сцэну. Яшчэ ў студэнцкія гады ён выявіў, адрозна ад сваіх аднакурснікаў, цікавасць да п'ес мясцовых аўтараў. Вось і спектаклем «Ураджай» Цішко спрабуе даказаць, што п'есы **Паўла Пражко**, якія даволі шырока ідуць па-за межамі нашай краіны, могуць быць актуальнымі і на радзіме, у Беларусі. Атрымаўся даволі вясёлы, забаўны спектакль, які мае таксама свайго гледача і які тэатр нават вывозіць на замежныя гастролі. Але, з майго гледзішча, спектакль услед за п'есай атрымаўся бесканфліктным, стаўшы даволі спрошчанай ілюстрацыяй інфантылізму сучаснай моладзі.

Увогуле ж, калі казаць пра Камерную сцэну купалаўцаў, дык, як я разумею, паводле жадання кіраўніцтва тэатра яна мусіць стаць пляцоўкай маладых рэжысёраў і акцёраў, якія адрасавалі б спектаклі маладому гледачу. Таму сёння яе рэпертуар вызначаюць акурат Алена Ганум, Дзмітрый Цішко і адзін з вядучых акцёраў ужо сярэдняга ўзросту, які спрабуе свае сілы ў рэжысуры, – **Раман Падаляка**. Менавіта ён стаў ініцыятарам пераносу на сцэну і пастаноўшчыкам літаратурнага бестселера **Андруся Горвата** «Радзіва Прудок». А мо нават і спрычыніўся сваім вельмі папулярным спектаклем да такой гіперпапулярнасці твора. Разам з артыстамі-аднадумцамі **Міхасём Зуем, Святланай Анікей, Дзмітрыем Есяневічам** Раман Падаляка вясковыя дзённікі Горвата паспрабаваўператварыць у ментальны беларускі космас. Спектакль атрымаўся вельмі атмасферны, хоць драматургічна і небясспрэчны. Асобныя яскрава разыграныя сцэны не заўсёды зліваюцца ў агульны малюнак свету беларусаў.

І другі спектакль Рамана Падалякі, які толькі што пабачыў свет, вельмі цікава задуманы. Гэта, паводле задумы, «вербацім», варыянт дакументальнага тэатра з цікавай ідэяй: дарослага чалавека фарміруе яго дзяцінства, траўмы якога адбіваюцца на характары, паводзінах, лёсе чалавека. Пасланне спектакля: дарослыя людзі павінны гэта разумець, улічваць пры выхаванні дзяцей. Аднак адсутнасць прафесійнага інсцэніроўшчыка сабраных дзіцячых успамінаў і пастановачнага вопыту ў Падалякі, які, безумоўна, асоба інтэлектуальная, перашкодзілі рэалізацыі задумы. Спектакль не мае драматургічнай цэласнасці. Зноў жа асобныя эпізоды нібы перанесены са студэнцкіх паказаў, эцюдаў на прафесійную сцэну. А заяўлены жанр «вербацім» толькі заблытвае гледача, бо існуюць акцёры ўсё ж паводле прынцыпу пераўвасаблення ў вобразы. Таму асабіста я ўбачыў і ўспрыняў спектакль не больш як выдатны паказ здольнасцяў, таленту артыстаў **Валяніцны Гарцуевай, Крысціны Добыш, Паўла Астравуха, Івана Кушнерука.**

Ведаю: мне будуць пярэчыць. Маўляў, Камерная сцэна мае права быць пляцоўкай для эксперыментаў. Хай так, але эксперымент павінен існаваць толькі ў рэпетыцыйным працэсе, на шляху да паўнавартаснага спектакля, прадукту, які прадаецца. І калі купляюцца квіткі, дык людзі плацяць за гатовы прадукт, а не за набор інгрэдыентаў, з якіх яшчэ не вядома, ці атрымаецца паводле абранай тэхналогіі цэласны выраб, тавар.

Абнаўлення, амаладжэння рэжысуры патрабуе і сённяшні стан купалаўскай трупы. Яе ўзровень ужо вызначаюць новыя зоркі, артысты сярэдняга і маладога пакаленняў, якім ад дваццаці пяці да сарака гадоў, – **Раман Падаляка, Павел Харланчук, Валянціна Гарцуева, Вікторыя Чаўлытка, Крысціна Дробыш, Аляксандр Казела, Іван Трус, Дзмітрый Есяневіч, Аляксандр Зелянко, Марта Голубева, Міхась Зуй, Іван Кушнярук, Павел Астравух, Дзмітрый Тумас, Павел Паўлюць**… Ад іх залежыць нават подых спектакляў кіраўніка тэатра Мікалая Пінігіна. Паглядзіце хоць бы яго апошні спектакль «Кароль Лір», каб у гэтым пераканацца. Дый сам Майстар з гэтай кампаніяй, да якой абавязкова трэба дадаць і яркую маладую мастачку-сцэнографа Кацярыну Шымановіч, у творчым плане істотна памаладзеў.

У сваё другое стагоддзе купалаўцы выпраўляюцца з новым дыханнем.

**Вячаслаў РАКІЦКІ.**

ФУТБОЛЬНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

## Расписание чемпионата Беларуси по футболу на 2020 год

*На данный момент точно определены даты только первых десяти туров. Даты оставшихся двадцати туров станут известны в конце марта после выступления сборной Беларуси в плей-офф EURO'2020, сообщает pressball.by.*

### ТУР 1

***19–22 марта, четверг–воскресенье***

Слуцк – Славия (Мозырь)
Динамо (Брест) – Смолевичи
Ислочь (Минский район) – Неман (Гродно)
Витебск – Городея
Шахтер (Солигорск) – Торпедо-БелАЗ (Жодино)
Белшина (Бобруйск) – Минск
Динамо (Минск) – Рух (Брест)
Энергетик-БГУ (Минск) – БАТЭ (Борисов)

### ТУР 2

***3–5 апреля, пятница–воскресенье***

Славия – БАТЭ
Рух – Энергетик-БГУ
Минск – Динамо (Мн)
Торпедо-БелАЗ – Белшина
Городея – Шахтер
Неман – Витебск
Смолевичи – Ислочь
Слуцк – Динамо (Бр)

### ТУР 3

***10–13 апреля, пятница–понедельник***

Динамо (Бр) – Славия
Ислочь – Слуцк
Витебск – Смолевичи
Шахтер – Неман
Белшина – Городея
Динамо (Мн) – Торпедо-БелАЗ
Энергетик-БГУ – Минск
БАТЭ – Рух

### ТУР 4

***16–18 апреля, четверг–суббота***

Славия – Рух
Минск – БАТЭ
Торпедо-БелАЗ – Энергетик-БГУ
Городея – Динамо (Мн)
Неман – Белшина
Смолевичи – Шахтер
Слуцк – Витебск
Динамо (Бр) – Ислочь

### ТУР 5

***24–26 апреля, пятница–воскресенье***

Ислочь – Славия
Витебск – Динамо (Бр)
Шахтер – Слуцк
Белшина – Смолевичи
Динамо (Мн) – Неман
Энергетик-БГУ – Городея
БАТЭ – Торпедо-БелАЗ
Рух – Минск

### ТУР 6

***1–4 мая, пятница–понедельник***

Славия – Минск
Торпедо-БелАЗ – Рух
Городея – БАТЭ
Неман – Энергетик-БГУ
Смолевичи – Динамо (Мн)
Слуцк – Белшина
Динамо (Бр) – Шахтер
Ислочь – Витебск

### ТУР 7

***8–10 мая, пятница–воскресенье***

Витебск – Славия
Шахтер – Ислочь
Белшина – Динамо (Бр)
Динамо (Мн) – Слуцк
Энергетик-БГУ – Смолевичи
БАТЭ – Неман
Рух – Городея
Минск – Торпедо-БелАЗ

### ТУР 8

***15–17 мая, пятница–воскресенье***

Славия – Торпедо-БелАЗ
Городея – Минск
Неман – Рух
Смолевичи – БАТЭ
Слуцк – Энергетик-БГУ
Динамо (Бр) – Динамо (Мн)
Ислочь – Белшина
Витебск – Шахтер

### ТУР 9

***20–23 мая, среда–суббота***

Шахтер – Славия
Белшина – Витебск
Динамо (Мн) – Ислочь
Энергетик-БГУ – Динамо (Бр)
БАТЭ – Слуцк
Рух – Смолевичи
Минск – Неман
Торпедо-БелАЗ – Городея

### ТУР 10

***28–30 мая, четверг–суббота***

Славия – Городея
Неман – Торпедо-БелАЗ
Смолевичи – Минск
Слуцк – Рух
Динамо (Бр) – БАТЭ
Ислочь – Энергетик-БГУ
Витебск – Динамо (Мн)
Шахтер – Белшина



З НАГОДЫ

Алесь СІВЫ

# Паказуха

Як вядома, сарока цягне ў сваё гняздо ўсё, што блішчыць. Патрэбна яно ці не патрэбна, але цягне. Такая яе птушыная прырода.

Нашы ўлады проста дрыжаць, каб правесці ў краіне хоць нейкія больш-менш значныя спартыўныя мерапрыемствы. Патрэбна гэта нам альбо не патрэбна – ужо іншая справа.

Напрыклад, у маі 2015 года Нідэрланды атрымалі права на правядзенне II Еўрапейскіх гульняў, а ўжо ў чэрвені адмовіліся іх праводзіць, бо падлічылі: фінансава немэтазгодна.

Як высветлілася пазней, прычынай адклікання заяўкі стала адмова галандскага ўрада даць Нацыянальнаму алімпійскаму камітэту краіны 60 мільёнаў еўра да агульнага бюджэту спаборніцтваў у 125 мільёнаў еўра. Грошы там умеюць лічыць, таму і вырашылі, што затраты не вартыя таго, каб праводзіць у краіне спаборніцтвы не самага вышэйшага гатунку.

Але дзякуй Богу, што ў свеце ёсць каму падхапіць спартыўны факел: ужо ў 2016 годзе Асамблеяй еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў было прынята рашэнне, што II Еўрапейскія гульні 2019 года пройдуць у Беларусі. І яны прайшлі з такой помпай, як быццам гэта была Алімпіяда, а не заштатныя спаборніцтвы.

І вось – чарговы трафей! Эстонія адмовілася праводзіць чэмпіянат Еўропы па біятлоне з-за адсутнасці снегу, але, дзякуй Богу, у свеце ёсць краіны, дзе снег ёсць нават тады, калі на вуліцы плюсавая тэмпература. Еўрапейскае першынство стартуе 26 лютага ў «Раўбічах», калі паводле прагнозаў сіноптыкаў днём чакаецца плюс 5–7 градусаў.

Каб паказаць, што мы можам немагчымае, снег пачалі збіраць, можна сказаць, па крупінках з усіх магчымых месцаў, бо, як аказалася, снежныя пушкі пры плюсавай тэмпературы не працуюць – з іх цячэ вада. Улічваючы такія складаныя абставіны, траса плануецца ў 2,5 кіламетра – адзін кароткі круг.

Паўстала лагічнае пытанне: «Навошта нам гэта патрэбна?» Але з адказу нашых спартыўных чыноўнікаў вынікае, што недальнабачныя эстонцы проста выпусцілі птушку шчасця з рук.

*«Міжнародная федэрацыя вырашыла аказаць нам фінансавую дапамогу ў суме 125 тысяч еўра*, – паведаміў грамадскасці першы намеснік міністра спорту Аляксандр Гагіеў. – *Плюс 75 тысяч еўра даюць на правядзенне Кубка IBU. Усяго – 200 тысяч еўра. Нам гэта выгадна. Будуць забіты ўсе месцы, будзе забяспечана харчаванне. Акрамя гэтага, кожны ўдзельнік плаціць ад 70 да 90 еўра на сябе ў суткі. Фактычна ўсе выдаткі закрываюцца».*

Дарэчы, кошт квіткоў на чэмпіянат Еўропы – ад 5 да 99 рублёў. Самыя танныя білеты – назіраць за гонкай уздоўж трасы, самыя дарагія – на VIP-трыбуну насупраць стрэльбішча. Мяркую, з запаўняльнасцю трыбун праблем і насамрэч не будзе, бо ў нашай краіне існуе шмат дзяржаўных устаноў, якія могуць гарантавана арганізаваць падтрымку абсалютна любога мерапрыемства ў любы час сутак.

Дарэчы, у мінулыя выхадныя завяршыўся чэмпіянат свету па біятлоне, а напярэдадні яшчэ тры этапы Кубка свету, таму практычна ўсе мацнейшыя спартсмены адпачываюць, а на чэмпіянат Еўропы ў Мінску прыедуць другія-трэція нумары.

Відаць, за тое, што беларускія біятланісты выступілі на сусветным першынстве праз пень-калоду, нашы чыноўнікі ў пакаранне вырашылі асноўны склад зборнай кінуць з агню ды ў полымя. Ніякага адпачынку беларускім спартсменам не будзе, таму давядзецца ім пыхцець і ў родных «Раўбічах», успамінаючы «добрым» словам эстонцаў і дзякуючы за клопат уласнаму мудраму кіраўніцтву.

*«У нас няма выбару*, – заявіла беларуская біятланістка **Ганна Сола** by.tribuna.com. – *Таму будзем цярпець і працаваць».*

З новымі перамогамі, таварышы! Ура!



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 24.02.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 007 экз. Заказ № 544.